Маргарыта Латышкевіч

# ЯБЛЫКІ

*апавяданні*

Мінск
«Медысонт»
2016

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-44
Л27

**Латышкевіч, М. Ю.**
Л27 Яблыкі : апавяданні / Маргарыта Латышкевіч. — Мінск : Медысонт, 2016. — 98 с.

ISBN 978-985-7136-19-3.

У гэтым зборніку прадстаўленыя апавяданні і нарысы маладой беларускай пісьменніцы Маргарыты Латышкевіч.

Розныя па танальнасці, ад пранізліва-кранальных да адкрыта гумарыстычных і сатырычных, яны ўсе аб'ядналыя ў досыць цэласны цыкл назіранняў за жыццём. Творы аднародныя і стылёва: аўтар акцэнтуе ўвагу чытача на асобных яркіх дэталях, на ўласны манер пераасэнсоўваючы і пераствараючы падзеі рэчаіснасці.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7136-19-3**

# Змест

# Яблыкі

Бывае сяброўства між роднаснымі душамі, сапраўдная повязь розумаў, калі думаецца на адзін лад, калі разам хораша нават і памаўчаць. Гэта сяброўства залатое, апетае ў паэзіі ды прозе яшчэ са старажытных часоў. Бывае сяброўства, крута замешанае на спаборніцтве, калі адзін аднаго падбухторвае, і штурхвае, і пхае далей, калі кожны — дзеля ўвагі другога — здольны хоць па столі скакаць. Гэтае — сярэбранае. Для высокай паэзіі пасуе, можа быць, меней, але, па вялікім рахунку, ніштавата.

Але ўсе дзеці ведаюць, што ёсць яшчэ адно, дарослымі прыдуманае, пакутлівае, вымучанае — сяброўства дзеля зручнасці. Сяброўства з разраду «жывяце поруч, то й цягайцеся разам». Сяброўства меднае. Ды і медзь тая, трэба сказаць, не самага лепшага гатунку: паспрабуеш на зуб — і зломіцца.

І калі высакародных металаў — золата і срэбра — хапае толькі на рэдкіх абраных, то вось медзі жыццё адсыпае ўсім. Напоўніцу. Каб болей не схацелася.

Нам — мне і Наталцы — не пашчасціла. Мы вучыліся ў адным класе і жылі амаль побач. Побач — значыць праз тры двары, ад адной шматпавярхоўкі, рудой, да другой, малінавай. Гэта быў прысуд.

І схапілі, і скавалі ў ланцуг, і загадалі гэтаму ланцугу радавацца.

— Як цудоўна! — з імпэтам казалі нашы бацькі. — Будзеце сябраваць!

Наталка глядзела на мяне са змрочным сумневам. Я на яе — гэтаксама. Так бурлак, відаць, глядзіць на суседа па абрыдлай

лямцы. Адным словам, адна адной мы нядужа падабаліся. Але «сябравалі» — хадзілі разам у школку і разам жа вярталіся. Размаўлялі мала, бо асабліва не было пра што.

— А я чытала, што каштан можа ўпасці чалавеку на галаву і скалечыць на ўсё жыццё.

— Угу.

Ішлі якраз вераснёвымі каштанавымі алеямі. Скоса пазіралі адна на адну і ўпотайку чакалі таго самага каштана. Не для сябе, вядома. Для сябра.

Канечне, калі мы пазнаёміліся трохі бліжэй, усё змянілася. Цалкам. Дакладней, непрыязнь перарадзілася ў суцэльна іншае, але па-ранейшаму моцнае, глыбокае, нястрымнае і, самае галоўнае, узаемнае пачуццё. У пагарду вышэйшай пробы.

Дзіўна разумеючы адна адну без аніякіх словаў, мы з Наталкай ведалі, што яна лічыць мяне фанабэрыстай дурніцаю, а я яе — безнадзейнай занудай. Узаемнасць і высокі градус пагарды нечакана прынеслі гармонію, поўны і абсалютны дзэн: мы ніколі не сварыліся. Нельга ж усур'ёз сварыцца з тым, кім так шчыра пагарджаеш і грэбуеш.

Нас прымушалі хадзіць адну да адной на дні нараджэння, падпісваць карткі ды прыносіць падарункі. Цяжка выбраць падарунак любімаму чалавеку, але стокроць цяжэй купіць хоць нешта для таго, кім зусім не цікавішся. Дасюль у мяне ў кніжнай шафе стаіць падораная Наталкай барвовая Л. І. Чарская з яе смешнымі маленькімі інстытуткамі, якія штохвіліны або страчваюць прытомнасць, або заломліваюць рукі ў гістэрыцы, або стаюцца нявіннымі ахвярамі якой-небудзь жудаснай змовы. І гэта ў той час, калі я досыць сур'ёзна рыхтавалася зрабіцца слынным касманаўтам і часта румзала ад крыўды, бо мой стрыечны брат, старэйшы за мяне на цэлы год і таму чалавек абазнаны ды аўтарытэтны, казаў, быццам бы дзяўчат у космас не бяруць.

У безнадзейным, але настойлівым памкненні зрабіць нашае сяброўства яшчэ больш моцным, бацькі ўпарта запісвалі нас у тыя ж клубы ды секцыі. Ува ўсякім разе, спрабавалі.

Так, напрыклад, мы з Наталкай апынуліся ў тэатральным гуртку. Агледзеўшы і праслухаўшы нас, загадчыца гуртка дала абедзьвюм ролі: Наталцы — Снягуркі, мне — Мядзведзя. Навазʼяўленая Снягурка толькі зʼедліва ўсміхалася, гледзячы на мае плюшавыя вушы, рукавічкі і спаднічку з мядзведжым хвосцікам.

У гэтым сваім адмысловым плюшавым строі я выходзіла, станавілася ў трэцюю балетную пазіцыю і, заламіўшы рукі нягорш за гераінь Чарскай, чытала свой маналог з шэкспіраўскім надрывам і інтанацыямі тэатральнай прымы:

— Тупу!.. Тупу!.. Тупу!.. Нясе Мішка — ступу!

Гледачы, маленькія акторы, нават сама кіраўніца гуртка, — усе дружна складваліся напалам і рагаталі голасна і доўга, да слёз. Наталка, якая ўрэшце выйшла з дзвюма рэплікамі пад самы канец, вельмі абуралася, што на яе ніхто так і не звярнуў увагі:

— Я ж прыгажэйшая за цябе!

Яна сапраўды была значна прыгажэйшаю. Гэта я, трымаючыся справядлівасці, прызнавала і толькі разводзіла рукамі ў мядзведжых рукавічках. Было нават трохі няёмка, як тады, скажам, калі незнарок у аўтобусе наступіў суседу на нагу.

Бабуля Наталчына жыла ў вёсцы на Ўкраіне, там жа Наталка праводзіла амаль усё лета. І адтуль прывозілі: Наталка — цэлы пук баек пра дасціпную бабцю і вёску, яе бацькі — садавіну, і гародніну, і мяса з кілбасамі, і яшчэ Бог ведае што. Гэтае поўнае самавітых прыгод падарожжа і тая загадкавая вёска, дзе на Купалле Наталка бачыла сапраўдную ведзьму, дазвалялі маёй сяброўцы глядзець на мяне — гарадскую — трохі звысоку. Гэтаксама звысоку яна ставілася і да «пакупной», дакладней, як і я, гарадской садавіны з гароднінай, салідна заўважаючы з перанятай у старэйшых інтанацыяй:

— Там жа спрэс адна хімія.

На слова «хімія» ў маёй галаве амаль імгненна спрацоўваў тумблер, і я пачынала радасна распавядаць пра тое, што чытала апошнім: ці то пра дзіўную берталетаву соль, ці то пра броўнаўскі рух часцінак, ці то пра старажытных грэкаў, якія так

неабачліва назвалі атам атамам — «непадзельным». Мне здавалася, што будучыя касманаўты павінны шмат ведаць пра ўсё на свеце, таму даводзілася многа чытаць. Натуральна, уся дарослая саліднасць размовы падобнымі рэплікамі скасоўвалася, і Наталка моршчыла нос і пагардліва крывіла вусны. Яе несуцяшальнае меркаванне пра маю сціплую асобу заставалася ранейшым.

Яблыкі яна кожны дзень брала з сабою ў школу — чырванашчокія, пекныя, духмяныя, ледзь не ўдвая большыя за ўласны кулак. Задуменна хрупала, пакуль мы вярталіся дамоў, падобныя да дзвюх чарапашак праз нагружаныя падручнікамі ды сшыткамі вялізарныя ранцы.

Толькі аднойчы, надкусіўшы яблык, Наталка нейк схамянулася, вохнула і пачала корпацца ў кішэні школьнай торбы.

— Што ж гэта я так, — сказала вінавата. — У мяне ж яшчэ адзін ёсць.

Я здзіўлена прыўзняла бровы, а Наталка, між тым, працягвала.

— Вось гэты, — паказала мне на далоні надкусаны яблык. — Ён ажно зімні, не такі смачны. А вось гэты, — жэстам фокусніка дастала яшчэ адзін, — ну такі салодкі, такі салодкі, ты проста не ўяўляеш!

— Ого, — сказала я.

— Ага, — азвалася Наталка.

Усміхнулася сонечна і з храбусценнем адкусіла ад знойдзенага надзвычайна салодкага яблыка ледзь не палову. Так і ела адразу два, падносячы іх па чарзе да рота і адмыслова працуючы скіўіцамі. Паглядала на мяне ўпершыню не з'едліва ці з пагардаю або непрыязню, а досыць паблажліва, са спакойнай і цалкам шчаслівай усмешкай. І прымружаныя вочы быццам бы гаварылі: «Што? А? З'ела? Ну?»

І два гэтыя непамерныя яблыкі ў яе руках, і самы тварык, выпэцканы яблычным сокам былі такімі смешнымі, што я — таксама без пагарды ці з'едлівасці — усміхнулася ў адказ.

Ланцуг навязанага сяброўства перарваўся даўно. Мы з Наталкай не бачыліся шмат гадоў, ды і, відаць, зараз ужо не пазнаем адна адну, сустрэўшыся на вуліцы. Але памяць пра дзяўчынку з яблыкамі жыве ўва мне дасюль.

Ведаеце, медзь каштоўная хаця б тым, што дзякуючы ёй пачынаеш разумець цану і срэбра, і золата.

# Шчасце

Сонечка фарбуе вусны ў цёмна-чырвоны колер. Бліжэйшы да чорнага нават, чым да ўласна чырвонага. Не па душэўнай схільнасці і не таму нават, што асабліва пасуе, а проста — модна.

— Трэнд!

З той жа прычыны падмазвае бровы так густа, што, калі ідзе па вуліцы, падаецца спачатку, быццам адны толькі бровы і ідуць. З-пад броваў паглядаюць круглыя вочы — вочы сумнай галкі. Як галка, Сонечка любіць бліскучыя рэчы. Праўда, адрозна ад птушкі, не проста цягне ў гняздо, а старанна накручвае на сябе — іззяе золатам, і брынкае, і звініць пры хадзе. Хадзіць на тонкіх ножках, на тонкіх абцасіках па абледзянелым тратуары няпроста, але Сонечка змагар па натуры і лёгкіх шляхоў не шукае.

Шукае яна, як, мусіць, усе людзі на свеце, шчасця. Шчасце Сонечцы адчайна не даецца, вылузваецца з рук. Пакутлівае, непадатлівае шчасце. Праз гэта Сонечка часта збягае ў цёмны куток пад лесвіцай, дзе ўздыхаюць скразнякі. І з павуціння, з пылу, з цемры гучным тэатральным шэптам кажа свайму шчасцю ў слухаўку:

— …ды як ты можаш? Ды як жа?!

Што адказвае шчасце, невядома. Верагодна, адказ не самы задавальняючы, таму што Сонечка, вяртаючыся ў гандлёвую залу, саркастычна падціскае цёмна-чырвоныя вусны.

Сонечка ў маленькай краме — касір. Цэлы дзень прабівае хлеб, і булкі, і пірожныя, і малако з кефірам. Касавы апарат дзынкае, рассыпае сярэбраныя званочкі па залі, паўзуць бясконцыя чэкі. Гараджане напіраюць на вітрыны, вывучаюць кошты.

— Грамадзяне, не абапірайцеся на шкло!

Грамадзяне, таксама змагары па натуры, усё роўна абапіраюцца.

Лічбы круцяцца, блытаюцца. Пакупнікі ў чарзе сярдуюць і абураюцца, часам досыць гучна. Часам не надта прыстойна. Сонечка, уся яшчэ пагружаная ў сваё нялёгкае шчасце, на гэта не зважае, трасе падвітымі валасамі і гнюсава цягне, стукаючы пальцам па гузікам апарата:

— Сок нуль два яблычны, дзевяць дзевяцьсот.

Дзве дзявяткі, два нулі. Зрэшты, ці не ўсё роўна, колькі іх, гэтых дзявятак і нулёў? Сонечкіны вусны крывяцца, а плечыкі пад тонкай — моднай — празрыстай кашулькай ледзь заўважна скаланаюцца.

Сонечка неяк бачыла, як прыблізна гэтак жа прыгожа ў модным галівудскім фільме пакутавала галоўная гераіня. І ўсе вакол яе прыгожую пакуту бачылі, і здзіўляліся, і ўражваліся — «Якая!..»

— Дзевяць чатырыста пяцьдзесят! — гнеўна папраўляе Сонечку пакупніца. На ёй чорны капялюшык, а на капялюшыку падрыгваюць, ловячы іскры святла, дробныя кропелькі. На вуліцы мокры снег валіцца, засланяе, быццам пуховая хустка, увесь горад.

— Дзевяць чатырыста пяцьдзесят! — паўтарае чорны капялюшык.

Сонечка апускае круглыя птушыныя вочкі на паперку за спісам тавараў. Вядзе пальчыкам з востра заточаным драпежным пазногцем (таксама даніна мяцежнаму шчасцю) па пераліку тавараў.

— Чатырыста пяцьдзесят, — раўнадушна пагаджаецца Сонечка. Яна ўсё яшчэ там, у сваім цёмным кутку пад лесвіцай, усё яшчэ з трагічнымі ноткамі ў голасе шэпча свайму шчасцю:

— Нам дужа, дужа, дужа трэба пагаварыць!..

Яна назірае за жыццём быццам бы з-за шкляной сценкі.

— Зусім працаваць не хочуць, — каментуе сухі пляшывы дзядок. Лысіна ў яго мякка свеціцца пад лямпамі, быццам паліраваная. Дзядок прагне смятаны, прычым як мага хутчэй, і задуменнасць Сонечкі яго нервуе настолькі, што ён нецярпліва тупае сухенькай ножкай.

Сонечка, адцягнуўшы долу вуглы вуснаў, прабівае смятану. І батоны, і каўбасы, і мінеральную ваду. Шчодрай рукой раздае хлеб надзённы, а сама безнадзейна патанае ў лічбах. Там, за снежнай заслонай ходзіць шчасце — і гэта не дае Сонечцы спакою, і яна зноў бяжыць у цёмны куток, і зноў тэлефануе. Часам доўга слухае кароткія гудкі, і ад звыклых бяскрыўдных гудкоў уся ападае, з пакутаю моршчыць востры тварык. Яна, канечне ж, ведае, з кім яно зараз, гэтае падступнае шчасце. О, яна ведае!

Веданне надае Сонечцы сілы, і яна ператвараецца ў ракавую жанчыну. Звузіўшы вочы, падбачыўшыся, стаіць ва ўнутраным дворыку, там, куды пад’язджаюць машыны з прадуктамі. Без курткі, так што пухатыя камякі снегу падаюць упрост на яе паўпразрыстую кашульку, на падвітыя валасы. Тая Сонечка, каторая ракавая жанчына, паліць модныя тонкія цыгарэткі, афарбоўваючы іх кончыкі цёмна-чырвоным. Пачувае сябе звадлівай русалкай, адзінае прызначэнне якой — губіць.

Патэнцыяльныя згубленыя душы патроху падцягваюцца. Зацікаўленыя кіроўцы, асабліва маладзейшыя, хутаючыся ў курткі, падыходзяць да трохі заснежанай Сонечкі.

— Сумуеце? — пытаюць гulліва. Просяць запальнічку, таксама паляць, выдыхаючы белы дым. Паляць, праўда, не арыстакратычныя цыгарэткі, як Сонечка, а куды мацнейшыя. Ад моцнай табакі востры Сонечкін носік чырванее яшчэ больш і пачынае патроху пухнуць.

Цыгарэтка паступова дагарае. Сонечка самым элегантным жэстам абтрасае попел. Шызыя ад холаду рукі здубянелі і не слухаюцца. Снег набіваецца ёй у валасы, снег ліпне да падмазаных броваў, слепіць вочы. Кіроўцы, разгрузіўшыся, адзін па адным з’язджаюць, і ракавая губіцелька застаецца ў адзіноце,

сам-насам са снегам і горыччу. Застаецца, праўда, не надоўга: хутка ў дворык выбягае, накінуўшы паліто, загадчыца аддзела. Твар у загадчыцы дрыжыць ад злосці, дрыжаць унізаныя золатам пальцы, дрыжаць светлыя кудзеркі.

— У мяне перапынак, — выстрэльвае падрыхтаваным апраўданнем Сонечка. Хібіць: не на тую натрапіла. Загадчыца ад гневу чырванее ледзь не ў колер Сонечкіных вуснаў.

— Пяты перапынак за раніцу! — крычыць загадчыца. — Цябе тут за перапынкі трымаюць, можа?

Сонечка, па-ранейшаму ракавая і недасяжная, паціскае плечыкамі. Адкідае цыгарэтку і павольна вяртаецца. Крочыць меленька, імкнецца расцягнуць дарогу. Адно каб не ісці ў залу, туды, дзе сярдзітыя перакошаныя твары, дзе званочкі і бясконцыя лічбы, дзе з-пад столі ліецца бязлітаснае святло. Адно каб яшчэ трошачкі застацца сам-насам са сваім незгаворлівым шчасцем, якое б яно ні было.

У залі тлумна і цесна. Сонечка працісквaецца да свайго працоўнага месца і зноў з сілаю, з палымянай жарсцю б'е пальцамі па гузіках. Гнюсавіць:

— Батон «Сталічны», адна штука. Пакет?..

Пакупнікі пакетаў не жадаюць, ходзяць са сваімі. Скнары.

За вокнамі нават за снегам відаць, як па праспекце едуць, свецячы фарамі, машыны ды аўтобусы. Прыпыняцца, пагудуць — і рушаць зноў, пад светлафор, і знікнуць з вачэй. Сонечкіна сэрца сціскаецца. Думаецца: вось прыедзе на чатырох колах шчасце, і зойдзе ў краму, і наблізіцца, і скажа…

— …дай пакет.

Сонечка скаланаецца ўсім целам, непаразумела глядзіць на пажылога мужчыну, цесна абцягнутага карычневай скурай.

— Пакет! — голасна паўтарае скураны дзядзька па складах. — Ты што, так цябе, спіш, ці што? Муха сонная.

Са звадлівымі, спакуслівымі русалкамі-губіцелькамі так, вядома, не размаўляюць. З ракавымі жанчынамі — тым болей. А вось з касірамі чамусьці — часта.

Плечы ў Сонечкі апускаюцца. Часта міргаючы, яна пад пільным позіркам скуранога аддзірае праклятып пакет і кладзе на прылавак.

— Здурнелі ўканец, — каментуе скураны, сыходзячы. Сонечка стаіць, апусціўшы галаву: шкляная сценка яе абранасці, пазначанасці шчасцем дала расколіну, не ўтрымалася пад ціскам знешняга свету. Касавы апарат дзынкае, паўзуць з шоргатам чэкі, з пафарбаванага рота Сонечкі выслізгваюць лічбы. Завучана. Механічна.

А у галчыных вачах разлілася сусветная скруха, і ў сэрцы горкая пустка, ажно цяжка дыхаць. І б'ецца ў скронях разам з крывёю: *ніколі, ніколі, ніколі*. Не будзе шчасця, не выжыць тут галівудскай гераіні. Не на гэтым свеце, дзе бясконцы снег, і скураныя дзядзькі, і загадчыца, якая пазбавіла прэміі. Не будзе — і ўсё. Фініта. Скончана.

Калі хваля пакупнікоў ападае, Сонечка зноў ідзе ў свой запаветны куток пад лесвіцай. Павольна дастае тэлефон, з надзеяй глядзіць на цёмны экран. Сустракаецца вачыма з уласным адбіткам і горка пасміхаецца. Яна — ведае. Яна ўсё ведае, з кім зараз нягоднае шчасце.

Яна — ракавая жанчына, губіцелька.

Сонечка набірае знаёмы нумар і кажа ў слухаўку звыклым драматычным шэптам:

— Нам трэба, трэба сустрэцца! Чуеш? Трэба!

І пакуль яна кажа — яна шчаслівая.

## Эквілібрыстыка

Бачылі, мусіць, калі-небудзь у цырку нумары эквілібрыстаў? Звычайна тоненькая дзяўчынка ў зыркім серабрыстым трыко выбягае на сцэну, і кланяецца, падымаючы кволыя ручкі, і робіць рэверансы. Пасля суровыя дзядзькі доўга сапуць, ставячы адзін на адзін бліскучыя металічныя цыліндры — самы большы, сярэдні, меншы і зусім маленькі. Тады на апошні цыліндр змяшчаюць дошчачку, прычым не адразу: уся канструкцыя хістаецца, і ходзіць ходырам, так што трэба прыкласці нямала высілкаў, каб дошчачка проста ўтрымалася наверсе, паўзверх усіх цыліндраў.

А пасля хтосьці з дзядзькоў бесцырымонна хапае дзяўчынку і ставіць яе, як ляльку, на тую дошчачку. І эквілібрыстка, завучана ўсміхаючыся, уся напружаная, напятая, як скручаная спружына, стаіць на самым версе. Балансуе на мяжы падзення, ажно дух захоплівае, гледзячы. Здаецца, ледзь-ледзь. Здаецца, вось-вось — і…

Вось і чалавечыя стасункі — рэч такая ж няпростая. Заўжды трэба ведаць, што, каму, калі і як казаць. Або *не* казаць.

Таму што ад аднаго сціплага «добрай раніцы», калі скажаце проста так, не падумаўшы, могуць быць самыя розныя наступствы, і часцей — непрыемныя.

Скажаце — а нехта ўжо і разумее:

— Ага! Добрая, значыць, раніца. А з чаго б гэта? А што гэта маецца на ўвазе? Паківае, значыцца, на штосьці?

І прыглядацца пачне, і што-небудзь непатрэбнае напэўна заўважыць. Бо ўсе мы людзі, і ва ўсіх нас штосьці не надта бліскучае сям-там прыхавана.

Хто «нехта»? Ды ўсе. Кожны.

Скажаце вы сваё недарэчнае «добрай раніцы», а у кагось учора стрыечны дзядзька з Пінска аддаў Богу душу. І хай бы сабе проста аддаў, але, як выявілася, падступны стары чорт год таму паспеў ажаніцца і кватэру адпісаў не каму б яшчэ, а новай жонцы. То раніца для несуцешнага пляменніка, вядома, нікольki не добрая.

— Ага, — падумае. — Здзекуецца, паскуднік!

Ці, можа, у суседзяў скралі сямейнае аўто якраз напярэдадні. А тут вы круціцеся са сваімі добрымі раніцамі. Падазрона.

— Ясна, — скажуць. — Ясна, хто злодзей. Бач, яшчэ і ўсміхаецца.

І паспрабуйце пасля патлумачыць участковаму, чаму ў вас з дваццаці трох да паловы на трэцюю няма алібі.

Або нават горш: якаясь занадта, упрост крытычна незамужняя жанчына запіша дурную вашу «раніцу» ў разрад кампліментаў. Ці, скажам, флірта. Жанчыны, каб вы ведалі, — могуць. І вельмі лёгка. І што тады?

— Ага, — вырашыць. — Значыць, мае пэўныя намеры.

А калі ўжо жанчына вырашыла, што вы маеце на яе пэўныя намеры, не адкруціцеся. А далей што? А вядома, што. З Віцебска ў вашу кватэру пераязджае цешча з сабакам, катом, папугаямі і цесцем-рэўматыкам, дзеці гуляюць у футбол вашым працоўным ноўтбукам, а там недалёка і да язвы страўніка з нервовых прычын. Будзеце ляжаць пад аперацыйнымі лямпамі — згадаеце тую сваю недарэчнасць, з якой усё пачалося, але позна будзе.

Ці вось, скажам, саступаеце вы месца ў аўтобусе. Думаеце, увесь такі цудоўны ды правільны? Думаеце, добрае выхаванне паказваеце? Лухта. Самападман. Фікцыя.

Саступіце месца жанчыне — тая і мяркуе:

— Што ж, значыць, я гэтак кепска выглядаю?

І неўроз, і слёзы, і палова сямейнага бюджэту адыходзіць да касметолагаў ды розных там цырульнікаў. Муж застаецца без абеду, бо калі абед гатаваць, калі трэба ў цырульню, дзеці

не вучаць урокі, нахабнік кот дзярэ кіпцюрамі новую канапу. І ўсё вы вінаваты з вашай недарэчнай галантнасцю.

Мужчыну, хай той нават лысы, з палачкай і трасецца ад старасці, рассыпаючы вакол пясок, таксама саступаць месца нельга. Ён, можа, у аўтобусе з дамай. Ён, можа, узрост свой дэманстраваць не хоча. Ён, можа, увогуле едзе на заняткі па бальных танцах з элементамі сальсы, дзе плануе заляцацца да дваццацігадовай інструктаркі. А тут вы яму ўвесь настрой псуеце. Брыдка. Сорам.

Пра дзяцей нават і казаць не трэба, усё і так відавочна. Чапляецеся да малых — значыць, маньяк. Хтосьці з асабліва пільных пасажыраў патэлефануе, куды трэба, — і вось, калі ласка, вітайце зноў спадара ўчастковага і зноў тлумачце яму, што вы не вярблюд.

А, паміж намі, участковыя з прафесійных прычын не схільныя давяраць людзям. Асабліва тым, якіх так часта бачаць у падобных абставінах.

І гэта, праўду кажучы, толькі вяршыня айсберга, ад якога штодзень тонуць тысячы «Тытанікаў» кшталту вас. Для прыкладу возьмем што-небудзь самае простае. Ну вось: на працы хочаце вы з калегамі абмеркаваць, што нехта Іваноў сыходзіць у адпачынак.

Так і кажаце:

— А Іваноў у адпачынак ідзе.

Проста каб размову падтрымаць.

Заканчваецца ж усё тым, што звольнены Іваноў дзе-небудзь на паркоўцы дае вам кухталёў. А пасля вы ў аддзяленні траўматалогіі дзівуецеся, чаму б гэта так выйшла.

А выйшла вось як: Пятроў вас пачуў і перадаў Сідараву ўва ўласнай рэдакцыі. Маўляў, вось, ізноў гэты Іваноў у адпачынак ідзе. Сідараў, які заляцаецца да дырэктарскай сакратаркі, на наступны дзень і кажа ёй:

— Ды гэты Іваноў толькі і робіць, што ходзіць па адпачынках. Зусім ад рук адбіўся.

У сакратароў ад начальства сакрэтаў аніколі не бывае, так што тым жа вечарам дырэктар у нязмушанай размове даведваецца: Іваноў — аматар прагуляць і пафілоніць. А з раніцы на Іванова абрушваецца палымяны дырэктарскі гнеў.

Але калі каго спытаць, хто плётку пусціў, усе дружна скажуць — вы. І будуць мець рацыю. І раззлаваны Іваноў прыйдзе па вашу душу.

Альбо такі прыклад: накіруюць да вас на працу студэнтку-практыкантку. Тая ў першы ж свой дзень зламае капір, разаб'е камп'ютарны манітор, важныя дакументы закіне ў шрэдар. І такая ўся недарэчная і няздатная, і такая з гэтай прычыны няшчасная, што вы, каб супакоіць, скажаце, як заўжды, не падумаўшы:

— Ну, нічога, Алачка, з кім не бывае.

Скажаце — а ў выніку вам дасць кухталёў ужо ваша ўласная жонка разам з цешчай і цесцем.

Таму што Сідараў перадасць Пятрову, што вы нешта занадта добры з недарэкай-практыканткай, а Пятроў перадасць сакратарцы, што вы яшчэ, аказваецца, ого-го і круціце-муціце з маладухамі. А ў сакратаркі і вашай жонкі, каб вы ведалі, адзін цырульнік, а апошнія падчас навядзення прыгажосці на кліентках дужа любяць пагаварыць.

Так што вы зноў апынецеся ў траўматалогіі. Што да Алачкі, то тая проста клінічная дурніца, няздольная карыстацца не толькі капірам, але і звычайнай шарыкавай асадкай, так што дабрыня і спагада ёй усё роўна не дапамогуць.

Ведаеце, чаму ўсё менавіта так кожны раз складваецца? А вельмі проста, насамрэч. Усё, што вы скажаце, можна выкарыстаць супраць вас. Каму заўгодна. Лёгка. Заўсёды.

Скажаце жонцы, што яна сёння асабліва прыгожая, а тая:

— Ага! Значыць, паківае, што зазвычай агідная!

Скажаце начальніку, што вам падабаецца працаваць з ім вось ужо дзесяць гадоў, а той:

— Ага! Значыць, паківае, што даўно павышэння не даю!

Скажаце цешчы, што боршч цудоўны і вам хацелася б яго часцей есці, ну вось хоць штодня, а тая:

— Ага! Значыць, паківае, што я мала гатую!

Скажаце класнаму кіраўніку старэйшага сына, што ўдзячны яму за выхаванне дзіцёнка, а той:

— Ага! Значыць, паківае, быццам праз мяне яго сын — ідыёт і хуліган!

Кожны дзень вы балансуеце на вузенькай дошчачцы, пакладзенай паўзверх бліскучых цыліндраў. І жыццё ходзіць ходырам, няўстойлівае, непрадказальнае. Адзін няправільны рух — і паляціце долу, і нос разаб'еце. Эквілібрыстыка — спорт не для слабых духам.

Так што лепей, далібог, маўчыце.

Хаця б кухталёў не атрымаеце.

# Быць Каралевай

Шырока вядома, што, каб зрабіцца каралеваю, трэба нарадзіцца ў каралеўскай сям'і. Тады — аніякіх пытанняў. У крайнім выпадку можна з матрыманіяльным разлікам згубіць пантофлік. Калі апошні трапіць у рукі да асобы каралеўскай крыві — і калі гэтая самая асоба трохі з'ехала з глузду ў плане жаночага абутку, — лічыце, усё атрымалася належным чынам.

Шасцікласніцу Лілю каралевай прызначылі.

Суровая Алыванна, ад аднаго позірку якой ніякавелі нават нахабныя навучэнцы выпускных класаў, правяла пальцам па класным спісе і назвала Ліліна прозвішча. Ліля пахаладзела і паднялася з месца.

— Вось што, — сказала Алыванна безапеляцыйным тонам. — Будзеш Каралевай.

Тоўсты ружовенькі Міхалёнак, які сядзеў на галёрцы, гыгыкнуў. Даўгалыгую худую Лільку яму было цяжка ўявіць у падобным амплуа.

Самой Лілі, зрэшты, таксама.

— Я?! — здзівілася яна.

У гэтае здзіўленне прымешвалася яшчэ і шчырае абурэнне. Усім вядома: з каралевамі зазвычай анічога цікавага не адбываецца. Сядзяць сабе ў вежах, можа быць, вышываюць. Карацей, нецікава.

Ліля, як чалавек з жывым розумам і здаровымі амбіцыямі, усёй душой прагнула дзеяння.

Выявілася: пяцікласнікі зараз праходзяць п'есу пра дванаццаць месяцаў. Каб ім было цікавей, Алыванна хоча тую п'есу

паставіць. Не цалкам, вядома, урывак. На ўроку рускай літаратуры. Заўтра.

На адной навазʼяўленай Каралеве справа не скончылася. Алыванна яшчэ раз задуменна вывучыла спіс класа, пасля ўважліва паглядзела на Андрэйку Разенштайна.

— А ты, — сказала збялеламу Андрэйку. — Будзеш Прафесарам.

Тут, канечне, ніякіх пытанняў узнікнуць не магло: Разенштайн быў, вядома, хлопчыкам па-прафесарску разумным. Хаця б таму, што насіў цудоўныя круглыя акуляры. Самы патрэбны выгляд.

— Значыць, вырашылі, — з відавочным задавальненнем канстатавала Алыванна. Ліля надзьмулася. Выразна разумела, што не *вырашылі*, а — *вырашыла*, але падабраць патрэбныя словы, каб запярэчыць, ды і проста набрацца на гэта смеласці не атрымлівалася.

Алыванну ў шостым «В» баяліся ўсе, нават хуліган Міхалёнак, баяліся да дрыжыкаў. Страх быў не свой, а прыдбаны ад пакаленняў папярэднікаў, культываваны школьнымі байкамі. Пяшчотная Анечка Вышынская, калі яе выклікалі, гублялася, страчвала здольнасць звязна размаўляць і не магла чытаць завучаны верш. Лёша Паварчук, які і так заікаўся, пад уважлівым позіркам Алыванны быў здольны хіба на асобныя гукі. Выкліканы да дошкі ружовенькі Міхалёнак, які прынцыпова ніколі не рыхтаваўся да ўрокаў, набываў ад сораму і інтэлектуальнага напружання насычаны малінавы колер. Так, воля ў Алыванны была сталёваю — як тут запярэчыш?

Дома Ліля прагледзела лісткі з рэплікамі. Іх было няшмат, гэтых акуратна разрэзаных палосаў паперы з тэкстам, старанна перапісаным рукою самой Алыванны. І тая Маршакаўская Каралева складалася ўся з абрывачкаў і палосаў, няпоўная, незаконченая, незразумелая. Вось як, скажыце, быць ёй, калі не ведаеш, не ўяўляеш нават, як яна ходзіць, і размаўляе, і як сядзіць, і як піша?

На заўтра трэба было рашыць тры практыкаванні па матэматыцы, але Каралева аніяк не выходзіла з галавы, і матэматыкай давялося ахвяраваць. Натуральна, дзеля мастацтва. Напэўна, падобныя ахвяры яшчэ ніколі не прыносіліся з такім імпэтам і такой радасцю.

У кніжнай шафе знайшоўся зацёрты том з поўным тэкстам п'есы. Ліля перачытала патрэбны эпізод некалькі разоў, але Каралева ўсё роўна выслізгвала, не давалася. Так маленькія рыбкі, калі паспрабуеш злавіць рукамі, слізгаюць між пальцаў. Да таго ж, у эпізодзе быў нейкі Канцлер, усе словы якога (па волі Алыванны, не Маршака) адышлі Разенштайну. Няпрошаны Канцлер збіваў, і Лілі нават пачало падавацца, што чалавек ён дужа непрыемны, магчыма, нават з доўгімі віслымі вусамі і малінавым распухлым носам. Можа быць, зусім як вусаты сусед з трэцяга паверху, мае злога маленькага сабака, які шчэрыць на ўсіх дробныя вострыя зубкі.

Рэплікі завучыліся хутка. Праз хвілін сорак Ліля сядзела на канапе і, звяртаючыся да здзіўленага ката, казала фанабэрыста:

— *Яшчэ чаго! Не магу ж я пісаць і думаць адначасова!*

Кот, як актор спрактыкаваны, па-майстэрску вытрымліваў паўзу.

Пад вечар Ліля прыйшла на кухню, дзе гатавалі вячэру і, калупаючы пальцам сцяну, аб'явіла без асаблівай урачыстасці, з сапраўднай арыстакратычнай сціпласцю:

— А я таго. Буду каралевай.

Сям'я, трэба аддаць ім належнае, да новага Лілінага статуса паставілася адпаведным чынам.

— То падрыхтую бігудзі, — адразу ж заявіла бабуля. Выявілася, што каралевы мусяць быць кучаравымі. Справядліва мяркуючы, што бабуля да эпохі каралеў хоць трохі, а ўсё-ткі бліжэй, Ліля пагадзілася.

— А словы ўсе ведаеш? — скептычна папытаў бацька. Ліля падбачылася і вымавіла не без выкліку:

— Анягож!

Разам з мамай клеілі карону з кардону. Атрымалася нішто сабе: вялікая, аранжавая, спераду ўпрыгожаная, быццам карункамі, цэлафанам з-пад святочных кветак. Адным словам, адметная карона, хоць бы і сапраўднай якой-небудзь імператрыцы ў такой выйсці не сорамна.

Спаць з накручанымі на бігудзі валасамі, як выявілася, няпроста. Ліля круцілася, сапла, змагалася з жаданнем вызваліцца ад клятых пластыкавых цыліндрыкаў, і паснула, здаецца, ледзь не на досвітку. Зрэшты, бяда была не толькі і не столькі ў валасах, колькі ў заўтрашніх пяцікласніках. Маршак, канечне, гэта ўсё напісаў, але напісаныя ім словы давядзецца несці, і прамаўляць, і ажыўляць. Андрэйку лёгка: мала таго, што прафесарскія акуляры носіць, дык яшчэ і бацька ягоны абяцаў яму сапраўдную ўніверсітэцкую мантыю і шапачку. А з Каралевай на адных кучаравых валасах і кароне не выедзеш. Вядома.

Ліля прачнулася сонная і разбітая. Спустошаная. Пазяхала, пакуль бабуля прыводзіла ёй валасы ў парадак, і непрыязна пазглядала на ўласны адбітак у люстры. Пазяхала, пакуль па плямах жоўтага святла ліхтароў крочыла ў школу. Пазяхала на трох першых уроках. Пазяхала, калі пасля званка на чацвёрты ўрок Алыванна вяла іх з маленькім Разенштайнам па школьным калідоры на першым паверсе.

За дзвярыма кабінета нумар адзін радасна шумелі, гулі, быццам растрывожаны пчаліны вулей. Алыванна загадала застацца тут і паводзіць сябе прыстойна, пакуль не паклічуць. Сама ўвайшла ў клас — і за дзвярыма магічным чынам усталявалася цішыня.

Андрэйка, захутаны ў чорную мантыю, падпіраў спінай сцяну і досыць гучна стукаў зубамі. Ці то ад холаду, бо са школьнага вестыбюля сюды дабіраўся непрыемны скразнячок, ці то ад хвалявання. Ці, магчыма, ад таго і другога разам. Сонная Ліля без асаблівай патрэбы папраўляла пышную святочную сукенку.

— Я словы не помню, — прызнаўся Андрэйка. Ліля паціснула плячыма.

— І я.

Словы за ноч зніклі, быццам растварыліся ўнутры. Белыя палосы паперы ліплі да далоняў, такія спакушальныя — і такія ненадзейныя. Пакладацца на іх падчас выступлення, гаварыць, прыклеіўшыся позіркам да почырку Алыванны, было б амаль злачынствам. Не перад суровай настаўніцай, а перад сабою.

Дзверы адчыніліся. Трошачкі, так, што вузкая лінія святла пабегла па сырой, толькі што вымытай падлозе да тонкіх, абцягнутых белымі калготамі ног Лілі. І ногі гэтыя пайшлі самі, быццам бы без удзелу гаспадыні. І зайшлі ногі ў клас, і сталі.

Бо злева былі вочы. З кожнай парты — па дзве пары, а партаў тут не адна і не дзве. Вочы глядзелі і апякалі, і позіркі, амаль рэчыўныя, можна было адчуваць скураю, нават не паварочваючы галавы. Так, не падымаючы павек, можна зразумець, з якога боку падступае сонца.

Перад зялёнай дошкай стаяла, выцягнутая з агульнага шэрагу, яшчэ адна парта, з белым пяром, якое, праз адсутнасць сапраўднай чарнільніцы, паставілі ў савецкую гранёную шклянку. Побач на парце бялелі лісткі паперы — белыя-белыя, быццам мара, быццам чайкі.

Ліля яшчэ раз паправіла сукенку, пачасала, адчуваючы на сабе гарачыню позіркаў, адной белай нагой другую. І ўздыхнула. І рушыла наперад.

І Ліля знікла — была толькі фанабэрыстая чатырнаццацігадовая Каралева. Гэта яна, наморшчыўшы носік і закінуўшы падбародзе, прайшла чатыры крокі да стала, адставіўшы руку да таго манерна, што па класе пайшлі смяшкі. Гэта яна ўпала на крэсла, і адразу ж пачала майстраваць з паперы самалёцік, і ў клас, туды, да пяцікласнікаў яго запусціла. Словы не трэба было згадваць і падглядаць са зробленых Алыванай шпаргалак.

Ліля *была* Каралевая. Усе сорак з лішкам хвілін.

# Дар

*(роздум пра сапраўднае і не)*

На самай ніжняй паліцы ў цеснай школьнай бібліятэцы, у неахайным стосе, дзе чаго толькі не было накідана — і капітан Врунгель, і пан Клякса, і іншыя — былі таксама і ЯНЫ. Патрапаныя часам і неашчаднымі рукамі, так што з вокладак выпадалі старонкі, і ўсё роўна — такія любыя, такія прыгожыя… Гэта часопісы. А ЯНЫ жылі якраз у гэтых нязручных (не ўлазяць у партфель) часопісах «Раман-газеты».

На першым па нябачаным лясным краі, пад нябачанымі (але дакладна нетутэйшымі) нябёсамі ехаў на белым кані рыцар. Глядзеў кудысь за рамку, пранікнёна і сумна, і ягонае падарожжа таксама падавалася — сумным, так што сціскала сэрца. І яшчэ — падарожжа было вечным; ён не прыпыняўся ніколі, не мог прыпыніцца, і — не мог дасягнуць мэты. І яго — Рыцара — з вечным сумам і вечным імкненнем наперад аднаго было дастаткова, каб закахацца навечна, назаўсёды, да болю — у самую кнігу. А кніга была — «Уладар пярсцёнкаў» Толкіена. Праўда, у якасці назвы значылася — «Хранители», так што рыцар быў — Хранитель, Ахоўнік, а падарожжа яго ператваралася ў бясконцую варту, вечную варту між маўклівых гор і лясоў. Што ён захоўваў, ад каго аберагаў — было няважна (і зараз няважна). Важна было, што — вартуе, беражэ, што заўсёды будзе вартаваць.

Льсняныя лісты пад вокладкай пачыналі расповед пра хобітаў, і я дзівілася (нават сердавала): чаму? Рыцар не быў — не мог быць — адным з іх, увесь гэты пастаральны Шыр быў для яго цесным, *занадта* дамашнім ды звыклым. Пра хобітаў

я чытала (і зараз так чытаю), думаючы адно: калі ж, калі з’явіцца Той, з вокладкі?

Кніжныя хобіты, між тым, пілі піва ў «Зялёным Драконе», размаўлялі пра надвор’е ды ўраджаі (нецікава), і раптам — заміранне сэрца — праскоквала згадка пра «таямніцу». Праз лясы Шыра да далёкага, тады мною яшчэ нябачанага Мора ішлі эльфы. Ішлі, каб сесці ў караблі і адплыць далёка — на Захад. Знікалі незваротна, назаўсёды з краю розных там хобітаў (ха, так ім і трэба). Але гэта было сумна, так тужліва і сумна, што хацелася плакаць: як жа, эльфы сыходзяць, а хто застанецца?.. І хацелася бегчы за імі, яшчэ няяўнымі, незразумелымі, і прасіць: застаньцеся! А яны не чулі, ішлі — праз лясы — няўхільна ішлі на Захад.

У школе выкладалі геаграфію, і Захад для мяне была — Польшча. Можа, Германія. За акіянам (хто ж не ведае?) была Амерыка, а за ёй, зноў цераз акіян — Еўразія. А там, праз кіламетры, кіламетры, кіламетры — зноў я. Сумніўна, каб эльфы (эльфы!) адплывалі ў ЗША.

Яны і не адплывалі туды — гэта было ясна. Так прыйшло разуменне, што свет гэты — эльфаўскі, сумны і бясконца дарагі гэтым сумам — свет іншы, не мой. Чый? А Дж. Р. Р. Толкіена, вядома. Вокладкі не ілгуць.

Так Рыцар з Ахоўніка ператвараўся ў Вандроўніка — вечнага вандроўніка. Што ён адзін з тых самых загадкавых эльфаў, якія няспынна імкнуліся на нейкі свой, толькі ім зразумелы Захад, было відавочна. Залатыя валасы кратаў нябачны, але неабходны для ночы, гор і лясоў вецер, праблісквалі ў святле месяца даспехі, белы конь рушыў наперад, застаючыся на месцы.

Эльфы сустракаліся і раней — у казках Андэрсена, у цішком прачытанага (і амаль незразумелага мне ў шэсць год) Шэкспіра. Але гэтыя — былі несапраўдныя. Сапраўдныя тыя, што — ноч, і месяц, і вецер у валасах, і белы конь, і дзікія горы за плячыма. Андэрсенаўскія раздражнялі матылёвымі крыльцамі і несур’ёзнасцю: кветачкі, дурненькія Тумбеліны-Дзюймоўкі ды параненыя

ластаўкі не выклікалі ў мяне аніякай спагады. Тамтэйшы прынц эльфаў (казачны Ілжэдзмітрый) — проста вялікі матыль, а матылёў нельга — любіць, нельга па матылях — сумаваць, нельга матылямі — захапляцца.

Шэкспіраўскія былі бліжэй, таму што — магія, таму што — насмешнікі, таму што — ноччу, пад месяцам. Але шлюбныя перыпетыі Аберона з Тытаніяй таксама не краналі, хутчэй нават — падаваліся лішнімі, непатрэбнымі. Нашто ўсе гэтыя дробныя, нязначныя *каханнейкі*, нікчэмныя *любові*, калі ёсць магія, і месяц, і стары лес, і вакол ноч, і толькі гэта — сапраўдная, шчымлівая, цяжкая і нязбыўная любоў?

Таму было гэтак:

— Будзеш мульцік пра Дзюймовачку глядзець? (гэта мама ад тэлевізара)

Я:

— Не-а! (вось яшчэ!)

— Чаму гэта?

— Яна *несапраўдная*!

Так Андэрсен быў рашуча адрынуты. І як патлумачыць, чаму гэтыя (мае!) эльфы — сапраўдныя, а тыя — не? Чаму гэтых я люблю, а тымі грэбую? А зноў-такі — за месяц над плячом у вершніка, за цёмныя хвоі і суровыя клыкі гор, за белага каня, які — я ведаю — нясецца так, што перахоплівае дыханне, і ўсё ж — на месцы стаіць. У Андэрсена такога быць не магло, Андэрсен — для нудных дарослых, дакладней — створаны для такіх дзяцей, якімі іх уяўляюць нудныя дарослыя. А *сапраўдныя* дзеці любяць іншае, таямнічае, няўлоўнае, жорсткае ў гэтай сваёй няўлоўнасці, такое, што не любіць — немагчыма.

Пасля ў кнізе зноў былі хобіты, і зноў было чаканне: калі ж — Яны? Чарадзей Гэндальф быў кепскаватай заменай, хаця я ўжо тады ведала (цалкам незнаёмая з скандынаўскімі мовамі), што ён — эльф. Не Гэнд-Альф («эльф з чароўным посахам» з ісландскай), а проста — эльф, адзін з Тых, маіх, толькі пад маскаю, пад прывязной барадой. Таму што — вандроўнік, таму

што — маг, таму што з'яўляецца і знікае нечакана. І дзеля яго даводзілася мірыцца з усімі гэтымі бясконцымі хобітамі, іх бясконцымі звычаямі, іх бясконцымі святкаваннямі ды снаданнямі-абедамі-вячэрамі. А падарожжа Фрода і Ко было толькі падарожжам да Іх, туды, дзе Яны, прэч ад тоўсценькіх, па вялікім рахунку, неблагіх, але нудных (як Дзюймовачка) хобітаў. Пярсцёнак Усяўладдзя ж быў толькі прычынай, апраўданнем дарогі; і пярсцёнак быў — іхні, эльфаўскі, з выкшталцонай вяззю Іх літар, што праступалі зыркім агнём на золаце, што спавівалі цэлы свет старажытнымі чарамі. Золата — зыркае, як агонь, і золата — злое, таму што чары — злыя; і вось хобіты ідуць (на золку) да эльфаў, каб тыя дапамаглі, бо гэтыя чары назаляюць. І эльфы абавязкова дапамогуць — яны ж Ахоўнікі, вершнікі з залатымі валасамі, закаваныя ў бліскучыя латы (не з золата — з міфрылю), яны выратуюць і развеюць злое золата — залою.

І лес за межамі Шыра — цёмны, варожы, стары — адназначна ўжо Іх тэрыторыя, так што я не здзівілася, калі раптам (і не раптам зусім) сустрэліся Яны. Абрыўкі песень, і святло вогнішчаў, і гукі дзіўнай — Іхняй — мовы, і цёмныя дрэвы, поўня, цьмяныя прароцтвы. Усё — толькі кароткі прыпынак на шляху, які ніколі не скончыцца, на шляху да Мора, да якога яны ідуць вечна і да якога ніколі — ніколі-ніколі — не дойдуць. Або сягнуць, як напрыканцы кнігі, уздымуць белыя ветразі і знікнуць за гарызонтам, так што застанецца толькі стаяць на беразе, і глядзець, і плакаць…

Радасць, якая мяжуе з сумам, сум ад радасці і радасць ад суму — вось Іх сапраўдная сутнасць. І вось чаму Яны, уласна, сапраўдныя: таму што, сыходзячы, пакідаюць ў сэрцы пустку, што пячэ і душыць горыччу, таму што *не могуць не сысці*. Андэрсенаўскія эльфы нікуды не імкнуцца, нікуды не ідуць, нікуды не сыходзяць. Таму — несапраўдныя, таму замест балючай любові выклікаюць — пагарду. Як могуць яны, лялечныя, штучныя, сусальныя, замяніць Тых?

Не могуць. Не заменяць. Ніколі.

І ад Іх, напэўна, — туга па нябачаным, вечная і нязбыўная, і нецярпімасць адносна мірных, прыручаных, *нудных* казак, нудных кніг, нудных дзён, нудных людзей. Той, хто аднойчы палюбіў эльфаў — тых, сапраўдных, — хто імкнуўся за імі ў бясконцае падарожжа, каму сціскала сэрца так балюча і радасна, той не здолее палюбіць хобітаў, сытую усім-задаволенасць ды наіўныя пастаралі. Гэта праклён — на ўсё жыццё. І гэта — ад эльфаў, ад Ахоўнікаў і Вандроўнікаў, на ўсё жыццё — дар.

# Васілёк і Лотаць

…цыкады пяюць. Цягнуць і цягнуць сваю спрадвечную песеньку. Спякотны дзень надзейна адсечаны, адагнаны шырмамі, і ў пакоі пануе ўтульная штучная ноч. Лямпа свеціць цьмяна, водбліскі павольна плывуць па сценах, па спісаных паперах, па шаўковых рукавах гаспадара і па твары служкі. Пахне — востра і непрыемна, няхораша — лекамі. Гэты пах пасяліўся тут даўно, разам з гаспадаром, і не спяшаецца сыходзіць, і трывожыць, і не дае спакою.

Служка з Ба — зусім яшчэ хлопчык — не зводзіць з гаспадара цікаўных вачэй. Нават дыхае цераз раз. Слухае ўважліва, старанна. Словы разбураюць душную цішыню, падаюць, нанізваюцца адно па адным, быццам каралі местачковых прыгажунь, быццам кроплі расы на трапяткія ніці павуціння. Гаспадар, нахмурыўшы густыя чорныя бровы, чытае вершы-юэфу, так сумна і так напеўна. Зрэдку перарываецца, каб адкашляцца, кашляе суха, прыкрываючы хусткаю вусны. Служка ў гэты час цярпліва чакае, сядзіць ціха, баючыся зварухнуцца. Падаецца, быццам усё застыла ў гармоніі, у далікатнай раўнавазе. І мляўкая спёка, і святло лямпы, што балансуе на паперы, і словы, на якія да болю выразна адгукаецца нешта ўнутры.

*У кругазваротах Нябеснай ракі*
*Кружыць ноччу зорная безліч,*
*На Срэбраным беразе, як астраўкі,*
*Аблокі пяюць ціха песні.*

Маленькі служка слухае і не ведае — ды і, канечне, ведаць не можа, — што праз некалькі стагоддзяў у падобным пакоі, поўным кніг і запісаў, іншы гаспадар-кніжнік, з каштанавымі валасамі, нібы адгукнецца, нязмушана падтрымліваючы размову:

*Бачыце гэтыя буйныя зоркі,*
*Ясныя зоркі Геркулеса?*
*Да іх ляціць нашае сонца,*
*І нясецца за сонцам зямля.*

Два вытанчаныя кніжнікі, зачараваныя зорамі, поўныя светлым, пранізлівым сумам, здольныя тонка адчуваць свет вакол сябе, здольныя гэты свет прапускаць праз сябе — і расквечваць фарбамі жывой, трапяткой душы. Падзеленыя часам і прасторам, але не бясконца далёкія.

Увогуле, падарожнікі, што падзяляюць адну няпростую дарогу, чужымі быць не могуць.

А ўсе мы, як вядома, — усяго толькі «*папутнікі сярод нябёс*», «*і праз горыч сумесна мы крочым*».

Лёсы часам складаюцца дзіўна, а розныя зоркі ззяюць па-рознаму. Адна ледзь ліпее, затое трывала і доўга, трымаецца за свой кавалачак неба ўчэпіста, моцна. Іншая разыдзецца, разгарыцца, успыхне, прарэжа ноч ззяйкім святлом — і не ўтрымаецца, паляціць долу, цягнучы за сабою доўгі агністы шлейф.

Першых болей. Здзіўляюць і прымушаюць задумацца пра вечнасць, пра Сусвет — другія.

Два падарожнікі, Максім Багдановіч і Лі Хэ, якраз з тых, другіх. Успыхнулі, прапаролі цемру, здзівілі, апяклі агнём, іскры ад якога і дасюль яшчэ жывуць, яшчэ грэюць, яшчэ свецяць. І рана сышлі, быццам бы самі ў сваім агні згарэлі.

Два падарожнікі — з Захаду і Ўсходу — дзіўную маглі б весці гаворку, каб давялося ім сустрэцца. У абодвух уважлівы

паэтычны зрок, здольны не проста ўхапіць самую дробную праяву навакольнага свету, але і прымусіць схопленае імгненне заквітнець у вершы, здольны падарыць імгненню — вечнасць.

Багдановічаў імклівы матылёк быццам жыве, быццам б'е крыльцамі, чапляючы залатыя сонцавы струны:

*Па-над белым пухам вішняў,*
*Быццам сіні аганёк,*
*Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі*
*Сінякрылы матылёк.*

Ці не сам паэтычны радок гэта, які набыў сваё жывое сінякрылае ўвасабленне? Увесь верш — гэта сапраўдны гімн вясне, гімн жыццю, хай і хуткаплыннаму, ува ўсіх яго праявах. Гімн паэзіі, жыццятворнай і вечнай.

Гэтак жа напеўна і радасна (бо музыка — перш за ўсё) шле свайго матылька насустрач кветкам і сонцу Лі Хэ:

*Белая квецень у вадзе ракі Цінджоў,*
*На кані Лю Юнь вяртаецца здалёк,*
*Водар айвы па-над берагам пайшоў,*
*Лёгка ўецца над ракою матылёк.*

У кожным пейзажы, у кожнай дэталі — свая эмоцыя, перажыванне. Увогуле, паэзія — творчасць надзвычай эмацыянальная. Кожны верш, мяркую, пачынаецца з пачуцця, і для таго, каб разумець (ці, як кажуць, *адчуваць*) паэзію, неабходна прыкладаць нямала душэўных сіл. Верш — заўсёдная размова, сутворчасць, судакрананне дзвюх душ. З гэтай прычыны, відаць, паэт больш востра адчувае адзіноту.

*Як гэта мне асэнсаваць,*
*Каму аб гэтым расказаць*
*У цэлым свеце?*

*Я вершы буду зноў складаць*
*І сам сабе услых чытаць*
*Пра стылы вецер.*

Так са скрухаю піша Лі Хэ, які, нягледзячы на бліскучы талент, заставаўся як бы па-за межамі разумення сучаснікаў, цярпеў нястачы не толькі матэрыяльныя, але і духоўныя. Падобным жа чынам разважае і Багдановіч, лёс якога таксама быў няпросты:

*Песня рвецца і ліецца*
*На раздольны, вольны свет.*
*Але хто яе пачуе?*
*Можа, толькі сам паэт.*

У гэтым парадокс і трагедыя: каб зразумець і адчуць паэзію, падзяліць з аўтарам верша яго пачуццё, трэба самому валодаць тонкім слыхам і чуйкай душой. «…*Кожны з вас — паэт*», заўважае Багдановіч у адным з санетаў.

І Максім Багдановіч, і Лі Хэ, надзеленыя надзвычайна абвостраным адчуваннем і свету, і паэтычнага радка, менавіта праз гэта быццам аддзеленыя ад свайго атачэння. Быццам бы асуджаныя на адзіноту. Багдановічаў Страцім-лебедзь, «горды, моцны птах», самім фактам сваёй выключнасці адасоблены ад іншых, — вобраз знакавы і ўва многім ключавы для разумення яго паэтычнай спадчыны. Для Лі Хэ падобным жа знакавым вобразам з'яўляецца вобраз каня, абраны ім, верагодна, таму, што сам паэт нарадзіўся ў год Каня:

*Скрозь празрыстую восень калі наталюся я бегам,*
*Залатую аброць адчуваючы гордым ілбом?*

Як вядома, Лі Хэ ўражваў сваіх сучаснікаў (ды і нашых таксама) сваёй спецыфічнай сімволікай. Яго нават называлі «дэма-

нам ад паэзіі», настолькі нечаканымі, непрадказальнымі былі яго мастацкія хады. З іншага боку, Лі Хэ, як і Максім Багдановіч, дзіця сваёй культуры, сваёй літаратуры і фальклору. Абодва — кніжнікі, надзеленыя ад прыроды вострым розумам, і таму здольныя звыклае і вядомае рабіць нязвыклым і неспазнаным. Так Багдановіч тонка пераймае народныя беларускія матывы ў мелодыцы верша, у вобразнасці — але з лёгкасцю перайначвае іх па-свойму, утварае з іх выкарыстаннем уласныя, стылёва адметныя. Багдановічавы васількі з «Апокрыфа» ці «Слуцкіх ткачых» — гэта сапраўдны нацыянальны сімвал, які нарадзіўся з фальклорнага *«няма лепш цвяточка над васілёчка»* і, дзякуючы Багдановічу, узрос і пусціў карэнне ў літаратуру:

*— Добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?*

Як і Лі Хэ, Багдановіч быў наватарам — не толькі ў плане вобразнасці, але і адносна літаратурных формаў, далучаючы нацыянальную літаратуру да агульнаеўрапейскага кантэксту. Дзіўна прагучыць, але, паводле сведчанняў некаторых даследчыкаў (у прыватнасці, Франсуа Жульена), менавіта дзякуючы еўрапейскаму рамантызму ў Кітаі зноў узнікла цікаўнасць да твораў Лі Хэ — нязвыклых, адметных, рамантычных. Лірычны герой Лі Хэ сапраўды ўва многім падобны да рамантычных герояў: тут і расчараванасць у жыцці, і адчуванне адзіноты, і жыццё ў самоце. Сам Лі Хэ, аўтар, асоба, у значнай ступені «рамантызаваўся» яшчэ пры жыцці: напрыклад, існуе легенда, быццам бы паэт штодзень выязджаў на конную прагулку і браў з сабою служку з вялікай торбай. Калі да Лі Хэ прыходзілі радкі, ён хутка занатоўваў іх на палосах паперы і кідаў у торбу. Увечары, вярнуўшыся дамоў, ён нібыта выцягваў спісаныя паперкі па адной і складаў з такіх асобных радкоў цэлыя творы.

Вобразы класікаў заўжды ахвотна рамантызуюць, утвараючы вакол іх арэол бліскучай недасяжнасці. А між тым, абодва — і Багдановіч, і Лі Хэ — так шчыра жадалі быць побач з чытачом, сэрца да сэрца. Жадалі быць пачутымі.

Кідалі агністыя словы праз гады і стагоддзі, праз час.

Апошні, вядома, бяжыць, хуткаплыніць, і свет бясконца змяняецца:

*…імклiва плывуць часу хвалі,*
*У мора сышлі пылам гор камяні,*
*І зноў з пылу горы паўсталі.*

Але жывыя, поўныя сілы галасы застаюцца, як і жадалі калісь, побач з намі.

Побач — два падарожнікі, два кніжнікі, два класікі. Захад і Ўсход.

Васілёк і Лотаць.

*У нарысе цытуюцца вершы Максіма Багдановіча*
*і Лі Хэ (у перакладзе А. Рамаоўскай)*

## Нехарошая кватэра

…Масква пачалася з упартага дажджу. Ён сыпаўся ноччу, пакуль цягнік ленавата трухаў наперад, пакуль усе спалі, гучна пасопваючы, а ў тамбуры, міргаючы, гарэла самотная лямпачка. Ён сыпаўся, калі цягнік прыпыніўся, калі бурклівыя пасажыры, нагружаныя клункамі, лезлі з абжытых купэ на перон. Ён сыпаўся на лысіны, на рудыя, русыя, чарнявыя галовы, на фуражкі і капелюшы. З шэрага, няўстойлівага марыва выплывала Масква — шумлівая, працавітая, дзелавая. Жывая, усмешлівая — хуталася ў дождж, быццам бы ў вэлюм.

Я глядзела на горад і міжволі прыгадвала, як глядзеў, як бачыў гэты моцны, энергічны, гучны горад другі чалавек. Аддзелены часам, ён нібыта застаўся тут, і нібыта быў побач, калі з'явілася за акном таксі цёмная квадрыга на франтоне тэатра, калі уздыхалі пад шынамі шырокія — такія нязвыкла прасторныя — вуліцы. Той, другі, калісьці пачуў, як Масква — гучыць. Яна гучала і зараз, і голас яе быў нямоўчным і моцным.

Той, другі, што слухаў і пачуў, — Булгакаў. Уласна, ехала я ў Маскву найбольш, нават у першую чаргу дзеля яго і да яго. Можна сказаць, у госці. Праўда, нахабна, без запрашэння.

Справа ў тым, што колькі гадоў таму адшукала ў сеціве водгукі задаволеных турыстаў. Тым пашчасціла трапіць у тую самую «нядобрую кватэру», і яны бессаромна хваліліся, прыкладалі фота і выказвалі жаданне завітаць туды яшчэ раз. Я гучна (з рэўнасцю) сапла, прагортваючы гэтыя старонкі ў сеціве, скрыгатала зубамі ад зайздрасці і думала сабе: «Ну вось як толькі, дык адразу ж».

Гэтае «адразу ж» зацягнулася на год з нечым, але — вось. Споўнілася. Эскалатар нясе мяне ўверх, прэч ад імклівых электрычак, серабрыстыя прыступкі шэпчуцца, усхліпваюць. Наперадзе маячыць блёклае святло шэрага, да верху поўнага шапяткой вады дня. Пятага дня верасня.

Варта выйсці з метро — сустракае Маякоўскі. Мокры, чорны, паглядае незалежна, горда, але падаецца самотным. На плошчы ля помніка бязлюдна, адно мы з Маякоўскім і колькі галубоў, але тыя, як вядома, літаратурай не цікавяцца. Гляджу уверх, у суровы чорны твар, гляджу, закінуўшы галаву, знізу ўверх. Галубы, шумна пляскаючы крыламі, узнімаюцца ў неба, вышэй за дахі, вышэй за галаву паэта. Дождж сыпле, выбівае на маім парасоне кульгавыя ямбы.

Па Садовай, дзе — ва ўяўленні ды ў Google Maps — хадзіла сотню разоў, з мапаю горада ў руках. У вокнах плывуць адбіткі машын, крочаць адбіткі людзей. Парасон спрабуе вырвацца з рук, за шыварат падаюць важкія халодныя кроплі. Пад хлюпанне вады ў кедах мільгае шчымлівая думка пра рыбацкія бахілы. Няспраўджаная надзея.

Першая згадка, першы голуб, першае вітанне ад Булгакава: у Тэатры Сатыры ідзе ягоная п’еса. Міхаіл Шырвіндт у парыку глядзіць пранізліва і сумна кудысь за мяне, пад белымі літарамі «Мальер: Кабала святош» дробнымі цёмнымі — «Міхаіл Булгакаў». Тут жа, ля афіш пераразаю дарогу сімпатычнай бабулі з каляровым парасонам (на манер Шумахера, ага).

— Скажыце, ці правільна іду да музея?..

Бабуля падымае бровы. У празрыстым пакеце аранжавеюць апельсіны. Іду, як выявілася, правільна. «Унь там, бачыце? Арка. А за ёю — той музей і ёсць». Мармычу падзяку і — наперад, цераз лужыны, у якіх плывуць пульхныя хмары. Побач маладая маці вядзе дробнага хлопчыка за руку, трымае над ім дзіцячы парасон-божую кароўку. У самой у цёмных валасах серабрацца кроплі.

Белыя шыльды «Садовая 302-біс» мокнуць пад дажджом. Успамінаецца: «Мы тут недалеко, на Садовой, где пожар». Пад

сырой аркаю за жалезнымі варотамі паліць мужчына. Кроплі вады на белым каўнеры і гальштуку.

— Скажыце, а музей Булгакава — тут?

— Тут. Я працую непадалёк, ведаю — дакладна.

— Значыць, былі?

— Я? — саромеецца. — Ну…

— А вы схадзіце, — кажу. — Абавязкова. А?

Хітае галавой, усміхаецца, выдыхае шызы дым. На белых сценах — ілюстрацыі на «Майстра і Маргарыты». Бегемот падчапіў грыбочак відэльцам, Маргарыта стаіць у атачэнні світы. Легкія, тонкія, жывыя штрыхі, падобныя да нечых сненняў.

З-пад аркі — у дворык. Дождж лупіць па даху чырвонага аўтобуса для экскурсій, з шыльдаў насмешліва глядзіць Булгакаў. Кароўеў і Бегемот застылі ў бронзе, салодкая дэманічная парачка. Глядзяць з'едліва, усміхаюцца.

— «У меня, может, полный примус валюты», — прагаворваю сабе пад нос, прыгадваючы булгакаўскія радкі. Прымус у гэтых дваіх, натуральна, з сабою, і таксама з бронзы.

Тут жа, каля прыяцеляў, уваход у «Булгакаўскі дом». Трохі далей, аранжавым, ярка і кідка сярод шэрага, — шыльда «Кватэра № 50». Стрэлкі на гадзінніку сыходзяцца на дванаццаці. Набіраю патрэбныя лічбы на дамафоне — і металічныя дзверы адчыняюцца, лёгка падаюцца наперад.

У пад'ездзе пад столлю гуляе халаднаватае рэха. Са сцен глядзіць, размножаны ў іпастасях, чорны кот: у капелюшы, з маноклем, з марынаваным грыбочкам. Былыя наведвальнікі раяць часаць ката, дзеляцца ўражаннямі, нагадваюць, што Воланд усё ведае (анягож!), ды проста пішуць свае імёны і даты. Літары і малюнкі звіваюцца, танчаць на светлай фарбе, з вокнаў льецца слабое святло. Падымаюся наверх, круцячы галавою, вывучаючы графіці. Прыпыняюся: на прыступках абазначаны сіняй фарбаю дробныя кашэчыя сляды.

Пралёт не дайшоўшы да чацвёртага паверху, прыпыняюся зноў. Стаю, зніякавеўшы, здзівіўшыся. Дый як не здзівіцца?

Ля дзвярэй па левую руку сядзіць кот. Сапраўдны кот. Вялікі, чорны, распушыў шыкоўны хвост, мружыць залатыя вочы. Глядзіць на мяне.

— Добры дзень, — гэта я кату. Той толькі чмыхае.

Сядаю на кукішкі побач, чашу гаспадару кватэры за вушкам. Папярэднія наведвальнікі кепскага не параяць. Сказалі — трэба часаць ката, значыць, трэба часаць. Традыцыя.

У кватэру заходзім разам. Кот, як асоба вольная і, можна сказаць, супрацоўнік музея, праходзіць безбілетным, бязгучна знікае ў паўзмроку калідора, раствараецца ў ценях. Я мнуся на парогу, чакаю білета, дазволу на фотаздымкі. За сцяны глядзіць Булгакаў у капелюшы.

Тут жа, у пакойчыку поруч трэба надзець бахілы — «паркет». Улічваючы, наколькі мокрыя ў мяне кеды, гэта, бадай што, самае мудрае рашэнне. У калідоры з асветленых рам глядзяць цені: Понцій Пілат, Іешуа, Майстар і Маргарыта. На адной раме з форткі доўгая рука цягнецца, і лёгкі скразнячок кратае патыліцу. Зразумела, чаму пасівеў Рымскі.

Найперш паварочваю на кухню. Кот пухнатым жаўтавокім ценем выцякае з-за вугла, тупае за мной, цікуе, сочыць, каб паводзіла сябе прыстойна. На кухні — блакітнаваты паўмрок, лямпачкі на экспазіцыі ярка гараць. На пажарным шлеме — жоўтыя, быццам кацiныя вочы, тлустыя блікі, тут жа чорны прас, і посуд у мойцы звалены. Падлога, сцёртая сотнямі ног, суха парыпвае. На шафе — ажно сціскаецца сэрца — дзіцячая цацка-гушкалка, размаляваны конік.

У кабінеце зялёная лямпа на стале, кнігі на разной паліцы. З партрэтаў, з фота глядзіць Булгакаў, заўжды розны і заўжды падобны да самога сябе. Утульна, цёпла, кола святла на старонках вабіць да сябе. Над ім на кніжным стосе чорна замест «Накануне» наклеена — «НУНЕНАКА». Быццам хтось толькі-толькі прачнуўся і цягне, пазяхаючы, і трасе галавой. І гэтак утульна чамусьці, быццам гаспадар толькі-толькі адышоў ад стала, пакінуўшы працу пад лямпай, і хутка вернецца, загартае кніжкі, шукаючы патрэбную старонку.

Побач жоўты абажур рассыпае святло. На белых старонках вялікага сшытка — водгукі і падзякі турыстаў. Швейная машынка адпачывае поруч з манекенам, вялікая канапа пад люстрам так і вабіць. Калі верыць шыльдам, Воланд сочыць за мной у кожным пакоі «нядобрай кватэры». Сустракаюся позіркам з уласным адбіткам у вялікім люстры, паварочваю галаву. З калідора за мною цікуе кот — разваліўся ўпрост на падлозе, стомлены, прымружыў вочы. Назірае.

А першай гадзіне ў вузкім калідорчыку не прадыхнуць: школьнікі, што пачынаюць вывучаць творчасць Булгакава, ідуць, весела перагаворваюцца. Цені ў кутах неяк скурчваюцца, класныя кіраўнікі голасна пакрыкваюць, пакуль вучні скідваюць мокрыя курткі, нацягваюць бахілы. Дзве дзяўчынкі, што здолелі праціснуцца раней за астатніх, старанна спрабуюць наладзіць кантакт з абарыгенам — то ж бо з катом:

— Мяў, мяў, мяў! Мяў? О, ты чула? Ён мне адказаў!

Кот фанабэрыста чмыхае носам. Ён, натуральна, і не думаў падтрымліваць размову, але праца ёсць праца. Становішча абавязвае.

Асцярожна выслізгваю з радоў школьнікаў, што прарываюцца ўглыб. Хтосьці, напіраючы, зачапіў табурэт, на якім стаіць вялізарная шкляная бутэлька з подпісам «Аннушцы на алей», і ахвяраванні для Аннушкі глуха дзынкаюць. Лесвіца дыхае прахалодай, рэха заблыталася ў графіці. «Дзе знаходзіцца Грыбаедаў? Булгакаў геній. Бегемот клёвы!» — кажуць сцены на розныя галасы.

Спускаюся ў дождж, праходжу пад аркай, дзе крокі гучаць гулка, дзе ў медытатыўную цішыню дворыка ўжо праліваецца гарадскі шум. Пераскокваючы цераз лужыны, паварочваю ў кавярню побач. Тут, седзячы насупраць акна, гледзячы на горад за акном паўзверх кубка гарбаты, ад якой пахне чаборам, думаецца лёгка і ясна. Не стрымаўшыся, лезу ў торбу па нататнік і асадку. Таропка гартаю старонкі, шчоўкаю гузікам асадкі. Дождж мягкай лапай скрабецца па шкле, шапоча пад шынамі, разбівае адбіткі хмурнага неба ў лужынах. Дождж падказвае, як варта пачаць.

Таму што Масква пачалася з дажджу.

## Жыў сабе на свеце вожык

Калі староннія людзі даведваюцца, што ты крэмзаеш паперу, у іх звычайна абуджаецца дух эксперыментатара. Ці нават інквізітара. Так, мая ўніверсітэцкая аднагрупніца неяк, заціснуўшы ў кут, сагнала з мяне сем патоў пытаннямі кшталту:

— А ты што, сама пішаш?

— Што, проста ўсё сама пішаш?

— І вершы?

— А як ты гэта пішаш?

— І такі праўда сама?

Падазраю, што яна чакала грандыёзнага выкрыцця і вельмі расчаравалася ўва мне, калі гэтага самага выкрыцця не адбылося. Ні табе літаратурных «неграў», нічога цікавага. Заўсёды сумна, калі не апраўдваеш чаканняў, таму зараз на інквізітарскія пытанні я звычайна адказваю так:

— Канечне, не. Знайшлі дурніцу.

— У мяне ў падстрэшшы пяць чалавек і адзін ундэрвуд для гэтых мэтаў замкнутыя і прыкаваныя да батарэі.

— А вершы піша спецыяльная хакерская праграма.

І адразу становіцца ціха, ясна, празрыста. Задаволеныя эксперыментатары паразумела хітаюць галовамі, і з імі ўжо можна весці гаворку пра справу.

Будзёная, простая праўда — пра самую звычайную працу над тэкстам і над сабой — іх, вядома, не цікавіць.

Толькі мая маленькая сяброўка, маладзейшая за мяне гадоў на дваццаць, і пры гэтым чалавек прыроджана інтэлігентны і далікатны, адарваўшыся ад альбома, дзе мы разам малявалі русалку, задала адзінае правільнае, як мне падаецца, пытанне.

Яна спытала:
— А ты калі пачала выдумляць?

А выдумляць гісторыі мне падабалася з самага маленства. Выдумляць на хаду, бессаромна змешваючы пабачаныя за кароткае жыццё мульфільмы, прачытаныя кніжкі ды ўрыўкі размоў дарослых гасцей у грымучую сумесь. Часам гэта адбывалася амаль незалежна ад мяне, проста прарастала *скрозь*, быццам маладзенькае дрэўца. Выдуманымі, прарошчанымі гісторыямі хацелася дзяліцца — бо нашто ж яны трэба, калі няма каму расказаць, няма каго здзівіць ды парадаваць?

Аўдыторыя была вялікая і нядужа патрабавальная — тубыльцы з двара пад рудой шматпавярхоўкай, ад чатырох гадоў да дванаццаці. Тубыльцам (прынамсі, большасці) надзвычай падабалася пужацца, і дзеля слухачоў я, як любы адказны аўтар, вусцішы паддавала, толькі папісквалі.

З гэтым папіскваннем, уласна, звязаны першы крытычны водгук на маю творчасць. А менавіта, раз'юшаная мама аднаго з празмерна ўражаных тубыльцаў пасля неспакойнай ночы, азмрочанай сапсаванай бялізнай, знайшла мяне ў двары. Рэцэнзія яе была сціслай і недвусэнсоўнай: калі я, маленькая паскудніца, не пакіну пужаць бедных дробных дзетак, гэта самым непасрэдным чынам адаб'ецца на маёй пятай кропцы.

Аргумент быў жалезны і не мог не накласці адбітак на ўсю маю далейшую творчасць. Зараз мне нават думаецца, што любы крытычны артыкул, дзе на ўзбраенне ўзятая падобная аргументацыя, абавязкова дойдзе да аўтара і, верагодна, значна павысіць якасць ягоных твораў.

Імпэт да стварэння ўласных гісторый, нягледзячы на ўсіх ваяўнічых мамак і бабцяў з майго двара (і іхнія «аргументы»), не пакінуў мяне і ў школе. Толькі-толькі пазнаёміўшыся з аднакласнікамі, я прафесійным вокам акінула будынак дзіцячага садочка, дзе размясцілі першагодак, і ацаніла густы сваіх новых слухачоў. Праз тыдзень разгубленыя бацькі і настаўніца дзівіліся,

чаму дваццаць дзевяць зарованых першакласнікаў, як адзін, перакананыя, быццам на месцы дзіцячага садка калісь былі могілкі, а па будынку дасюль ходзяць прывіды, якія хапаюць занадта гарэзлівых. Трыццатай (і адзінаю, хто ўночы спаў спакойна) была я.

Клас мне, трэба сказаць, патрапіўся досыць творчы. Выпускалі на двайных лістках, выдраных са сшыткаў, напісаныя ад рукі газеткі. Ледзь не кожны быў сам сабе рэдактарам і, высунуўшы ад стараннасці язык, штовечар перапісваў новы нумар у дваццаці-дваццаці пяці экземплярах. Газеткамі абменьваліся, пхалі адзін аднаму ў шафкі, клалі на парты. Некаторыя не надта сумленныя рэдактары нават, не спытаўшыся, капіравалі чужыя допісы ў сваіх выданнях. І пасля атрымлівалі кухталёў ад раззлаваных канкурэнтаў: газетная справа — рэч жорсткая.

Слава першых паэтаў амаль адразу (і трывала) замацавалася за маленькімі аўтаркамі верша-віншавання да восьмага сакавіка. Верш той, як зараз помню, мяне дужа ўразіў, таму што адно чатырохрадкоўе дасюль жыве ў маёй памяці:

*У сакавіку ёсць свята мам,*
*Ідзе такая вестка.*
*Дарункі дораць толькі нам*
*ды жаніхі нявестам.*

Пасля таго як настаўніца не без гонару прачытала верш усяму класу некалькі разоў, я многа і напружана думала. Напрыклад, калі сакавіцкае свята — гэта свята мам, то хто такія «мы» ў тэксце? Мамы? Але ж гэта іх трэба віншаваць, а так яны нібыта віншуюць самі сябе? Апрача таго, я ў свае шэсць год ведала дакладна: дзеці заводзяцца ад шлюбу. Таму нявесты, якім жаніхі ў гэты дзень мусяць дарыць падарункі, мамамі апрыёры не з’яўляюцца — хіба што ў аддаленай перспектыве. То іх, атрымліваецца, віншуюць за патэнцыяльнае мацярынства? І ча-

му, у такім выпадку, жаніхі абавязаныя віншаваць не сваіх уласных мам, а нявест? Дзе справядлівасць?

Загадка сакавіцкага чатырохрадкоўя мучыла і раздзірала мне душу з тыдзень. Поўны пакут і трывожных сненняў тыдзень. Зразумеўшы, што сваімі сіламі мне з такой тытанічнай задачай не справіцца, я звярнулася непасрэдна да вытокаў — маленькіх аўтарак, маіх аднакласніц Ганькі і Жэні. Тыя, акругліўшы вочы, патлумачылі спрэчныя моманты так:

— Каб рыфма была!..

Адказ мяне, праўда, ніколькі не суцешыў і не супакоіў. З іншага боку, вядома, што сапраўдная паэзія мусіць быць загадкавай ды таямнічай. Чым болей таямніцаў — тым болей уражвае. І давялося адступіць перад недасяжным. Зрэшты, усё адбылося ў той самы папраўдзе чароўны час, калі паходжанне арыфметычнага знака роўнасці тлумачылі нам літаральна так:

— Адзін з матэматыкаў старажытнасці заўважыў, што, калі паміж лічбамі паставіць дзве гарызантальныя палачкі, яны *становяцца* роўнымі адна адной.

Пярэчанні на гэты конт не прымаліся ані настаўніцай, ані аднакласнікамі. Ад сябе дадам, што, колькі разоў я ні спрабавала паўтарыць згаданы фокус з палачкамі, ніколі не атрымоўвалася. Хітрая матэматычная магія, відаць, даецца не кожнаму.

Прамінуўшы мяжу восьмага году жыцця, я прыкіпела душой і сэрцам да вялікіх літаратурных формаў і эпічнага напаўнення. Падазраю, што вялікую ролю тут адыграла блізкае знаёмства з Дж. Р. Р. Толкіенам і ягоным «Уладаром Пярсцёнкаў». Употайку спісваліся таўшчэзныя сшыткі, а ў гісторыі панабеглі орды эльфаў, ды гномаў, ды оркаў. Зрэшты, менавіта «Уладар» падштурхнуў мяне да міфалогіі як такой — скандынаўскай, кельцкай і славянскай. «Вялікія формы», вядома, не атрымліваліся ані вялікімі, ані ўласна формамі, затое ў кніжнай шафе знайшлося «Слова пра паход Ігараў». Там заступаў ход сонцу ды месяцу, абрастаў ваўчынаю поўсцю і «судзіў суды» сам Усяслаў Чарадзей, да якога ў мяне дасюль захавалася самае трапяткое,

амаль пяшчотнае стаўленне. Таму што, натуральна, чарадзей. Таму што — разумнік і хват. Таму што — свой.

Прыблізна ў той жа час я прачытала «След ваўкалака» Леаніда Дайнекі і трохі засмуцілася. Тамтэйшы Усяслаў у ваўка пераварочвацца аніяк не жадаў і ўвогуле чараваць не спяшаўся. Мусіць, быў на тое не ў гуморы.

Затое, калі я распавядала пра яго прыяцелям з класа ці дваровым тубыльцам, Усяслаў, перакінуўшыся ваўком, наводзіў жах на ворагаў з усіх бакоў. Ой-ёй, крычалі ворагі, уцякаючы, і плакалі, і клікалі мамак, і слёзна кляліся, што болей не будуць. А князь Усяслаў пад бледнаю поўняй, нібыта страла, ляцеў да Кіева, каб зрабіцца там самым галоўным князем.

Гэты вось момант — пра агромністага белага ваўка, які бяжыць праз цёмныя пушчы імкліва, як спушчаная з цецівы сярэбраная страла, бяжыць, абліты месяцовым святлом, — і мне, і маім слухачам надзвычайна быў даспадобы. Настолькі даспадобы, што да салодкага болю сціскала сэрца. Густы ў нас, дзяцей, тады наогул былі своеасаблівыя.

Мы падбіралі самыя вялікія сукаватыя палкі — на мячы ды лукі. Мы віслі на дрэвах, як тыя малпы, і рабілі рабаўнічыя налёты на сады ў ваколіцы. Мы ставілі шатры з коўдраў і, седзячы там, з асалодаю хрупалі з такою рызыкай здабытыя яблыкі, слівы і грушы. Мы, можа быць, і жылі ў сучасных шматпавярховых дамах, мелі ў кватэрах электрычнае асвятленне, тэлефоны, тэлевізары ды іншыя выгоды цывілізацыі, але душы нашыя былі дрымучыя, лясныя, калматыя.

Дрымучая душа настойліва патрабавала кніг. Зрэшты, гэта вядома: калі хочаш плесці хоць трошачкі цікавыя байкі, то чытанне неабходнае ледзь не болей за паветра. Я звяла кароткае знаёмства з супрацоўніцамі дзіцячых бібліятэк, што былі паблізу, цягала кніжкі дамоў і начытвалася да звону ў галаве. Ганька, тая самая, што «дарункі дораць толькі нам», часта далучалася да мяне. Тэлефанавалі адна адной напярэдадні і пыталіся па-змоўніцку, не называючы ані імёнаў, ані месцаў:

— Ну што, пойдзем?

— Пойдзем!

Ішлі па вузкіх вулачках, па скверах, спрытна пераскокваючы з адной бетоннай пліткі на другую, каб не наступіць на стыкі. Навыперадкі дабягалі да бібліятэкі і разам, штурхаючыся, праглядалі кніжныя палічкі. Шукалі без асаблівай мэты — што-небудзь новае, нябачанае, корпаліся самаадданa і пачувалі сябе археолагамі. Кніжкі сустракаліся самыя розныя: і замежныя дэтэктывы, і фантастыка, і — у значна больш сціплых вокладках — класіка, беларуская і руская. Некаторыя навюткія, з чысценькімі белымі старонкамі, хрусткімі, як крамяныя яблыкі. Некаторыя старыя, што называецца, зачытаныя, залюбленыя, з разламаным пераплётам, з пажоўклымі лістамі, якія ўсё спрабуюць вызваліцца, разляцецца ўспуджанай чарадой птахаў. Тонкі, ледзьве ўлоўны водар кніжнага пылу — самая ўтульная рэч, якая толькі ёсць на гэтым свеце. Так я меркавала тады, так мяркую і зараз.

Не так даўно ў букіністы, перабіраючы кнігі, я выпадкова разгарнула адну — старую, зацёртую, вельмі любімую некім кніжку з казкамі народаў свету. Па змятым лістку разбягаліся вялікія крывавыя літары, ужо трохі выцвілыя.

— *Жыў сабе на свеце вожык*, — старанна пісаў нехта.

Гэта быў дробны кавалачак вожыкавай сагі. Можа быць, нават старт вялікага падарожжа, поўнага прыгод. Але пакуль што вожык проста жыў — ці, дакладней, як той кот Шродзінгера, знаходзіўся ў стане нявысветленасці. Ягоная гісторыя яшчэ не прарасла, не пусціла карэнне, але ўжо бясспрэчна існавала. Сам безыменны вожык, як ні круці, а ўсё-такі існаваў.

Гэта была альфа і амега, пачатак пачаткаў. Ды і, увогуле, нават фінал любой гісторыі — гэта проста пачатак новай. Штосьці заканчваецца, штосьці пачынаецца, як пісаў Анджэй Сапкоўскі. Таму сапраўдныя гісторыі, як і жыццё, не заканчваюцца ніколі.

— А ты калі пачала выдумляць? — пытае мая маленькая сяброўка. І ёй, як нікому іншаму, я заўсёды адказваю праўду. Нават калі гэтая праўда гучыць трохі па-казачнаму.

Я кажу:

— Даўным-даўно.

## «Зямля»

Палачкай трэба намаляваць на зямлі кола. Вялікае, каб на ўсіх хапіла, і роўнае, прыгожае. Бяруцца за рукі двое — адзін у цэнтры стаіць, схапіўшыся моцна, другі шпарка ходзіць вакол яго на кукішках, трымаючы ў свабоднай руцэ палачку. Упрост, як ні паглядзі, чалавечы цыркуль. І лінія атрымліваецца адмысловая, і кола выходзіць не эліпсам якім-небудзь і не расцягнутым касабокім ромбам, а такім поўным і ладным колам, як належыць.

Вялікае кола — «Зямля». У самым цэнтры, у самым сэрцы яго — кола маленькае. «Сонца». І вось, на гэтым самым дробным сонцы, закусіўшы ад стараннасці вусны, малюем пяцёрку. Сонца з той прычыны атрымліваецца мечанае, ці то з пробаю (як на залатых упрыгожаннях), ці то з серыйным нумарам.

А вакол, за палачкай акрэсленай лініяй — «Космас», нязведаны, небяспечны ды вусцішны. Толькі што яго не было, але, як толькі замкнулася кола, як толькі з'явілася «Зямля», тут жа каршуком паў ён, і абкружыў, і аблёг.

Ад пачатку «Зямлю» дзеляць чэсна. Па справядлівацi. Колькі гульцоў — столькі і аднолькавых надзелаў, падобных да кавалачкаў торта. Той, хто праводзіць межы, можа, канечне, паспрабаваць схітрыць і свой уласны надзел трохі пашырыць. За кошт іншых. Але астатнія феадалы, апроч, можа быць, самых дробных, сочаць за ім досыць уважліва і, як што не так, гучна абураюцца. А ад усеагульнага абурэння недалёка і да поўхі-другой. Феадальная справядлівасць, яна такая.

Выбіраюць плоскі каменьчык, не вялікі, але і нядужа маленькі. Абы быў зручны. Часам такі вось зручны каменьчык

пасля гульняў акуратна адкладаюць куды-небудзь пад дрэва ці пад турнік, каб у любы момант момант можна было яго дастаць і ўжываць зноў. Вядома, ідэальных каменьчыкаў у краме не купіш, таму да іх стаўленне трапяткое, ашчаднае. Нават да самых дарагіх цацак так не ставяцца.

Завадатар трымае запаветны каменьчык у руцэ, кола на зямлі акрэслена, вялізарная пяцёрка на маляваным «Сонцы» так і кідаецца ў вочы. Значыцца, можна пачынаць. А пачынаюць урачыста, амаль як на рыцарскіх турнірах. І тое, думаецца, там такой пыхі не было. Сходзяцца усе, колькі ёсць феадалаў, у цэнтры, ставяць правую нагу пятою на «Сонца». Стаяць маўкліва, утварыўшы яшчэ адно кола, судакранаючыся наскамі сандалікаў, сцертых «дваравых» кедаў ды тэпцікаў. Сапуць. Завадатар павольна заносіць руку з каменьчыкам, абводзіць вачыма сабранне феадалаў і крычыць:

— Гоп!

Каменьчык падае. Усе з вішчаннем адскокваюць ад «Сонца», а некаторыя падступныя душы спрабуюць ці пятою, ці наском каменьчык на свой надзел закінуць, каб хадзіць першым. Бывае, праўда, што сходзяцца двое ці трое такіх заўзятараў, пачынаюць душыцца і пхацца, ледзь не да сваркі. А каменьчык тым часам мірна ляжыць на патаптанай пяцёрцы, і завадатар, пацягнуўшы носам, выносіць суровы вердыкт:

— Перакідаем!

Значыцца, усю цырымонію трэба паўтарыць з самага пачатку.

Але, так ці іначай, гульня ўсё-такі пачынаецца. Каменьчык неабходна нагою пхнуць так, каб ён аказаўся на надзеле іншага феадала. Пхаць трэба з сілаю, але асцярожна: за вылет у «Космас» штрафуюць на сем слядоў, за пападанне на «Сонца», як падказвае лічба на ім, — на пяць. Штрафуюць хутка, проста, але бязлітасна: кожны з дваіх феадалаў-суседзяў адмервае некалькі сваіх слядоў на надзеле небаракі і, задаволены, далучае адваяваную тэрыторыю да сваёй зямлі. Слядочкі адмерваюцца не літа-

ральна па слядочку: найбольшыя хваты любяць акуратненька прайсціся ля вугла і адхапаць яго цалкам, нягледзячы на пратэсты былога гаспадара. Або прымерыцца так, каб хаця б танюткім калідорам сваіх слядоў адсячы тэрыторыі суседа ад «Сонца».

— Усё ж чэсна. Паглядзі: пяць слядоў жа.

Абдзелены феадал, у якога дрыжаць вусны і з носу ўжо трохі падцякае ад шкадобы да самога сябе, з гэтым, вядома, не згодны, але правілы ёсць правілы, і дэ юра яго апаненты маюць рацыю.

— Гоп!..

Пхнуў каменьчык слаба, і той застаўся на тваім жа надзеле? Рыхтуйся аддаць па тры слядкі суседзям. Хват, што адсек цябе ад «Сонца», прымудрыўся ў наступны свой ход заляпіць табе па нагах каменьчыкам? Тады, братка, яшчэ чатыры слядкі. Кожнаму.

Раз пацэляць па нагах, два. Не здолееў разгадаць намер суперніка і падскочыць у належны час? Ну, то й не скардзіся, калі застаешся на абкарнаным, нібыта аб'едзеным, кавалачку «Зямлі», быццам Рабінзон на востраве.

— А таму што няма чаго тут выдручвацца, ясна?

Калі гульня пераваливае за сярэдзіну, каменьчык пачынае лётаць так хутка, што адно паспявай адскокваць. Спрытныя павялічылі свае надзелы ўдвая ці ўтрая, нязграбы або за тры-чатыры хады страцілі ўвесь свой надзел і з румзаннем пабеглі скардзіцца мамкам ці бабцям, або засталіся на дробным «астраўку» пасярод чужых зямляў. Калі б паглядзець зверху — дык не раўнуючы які-небудзь Ліхтэнштэйн. Уладар такога «астраўка» пасміхаецца з затоенай горыччу, быццам капітан карабля, што павольна ідзе на дно. Але, вядома, гуляць самотны капітан усё роўна працягвае: часам у буйных магнатаў на самым дне душы варушыцца сумленне, і яны скідваюць, так сказаць, з барскага плечука некалькі слядкоў. Зрэшты (заўважым асобна), не толькі ў сумленні ці чалавечнасці справа. А проста хітры хват-магнат спрабуе аддаліць момант супрацьстаяння адзін на адзін з асноўным сваім канкурэнтам.

Уладар незалежнага «Ліхтэнштэйна» настолькі напоўнены самай шчыраю ўдзячнасцю, што пачынае агрэсіўна накідвацца на асноўнага суперніка свайго дабрадзея. Шансаў у маленькага астраўка, канечне, аніякіх, але супернік хвата пад такім напорам часта траціць неабходную для сапраўднага стратэга стрыманасць. А суперніку-дабрадзею толькі таго і трэба.

Застаюцца, у рэшце рэшт, двое магнатаў. З прыблізна аднолькавымі па велічыні надзеламі, прыблізна аднолькава спрытныя і хітрыя.

— Гоп!

Чуваць, як баба Наста з першага паверху ўключыла любімы бразільскі серыял і як за язмінавымі кустамі голасна плача хтось з пакрыўджаных недарэкаў, якія раней вылецеў з гульні. Трымаўся з апошніх сіл, усміхаўся праз слёзы, каб боль і пакуту кплівым праціўнікам не паказваць, а пасля мужна пайшоў у язмін і зароў ужо там. Ад адчаю, ад крыўды, ад расчараванасці ў людзях зароў. Астатнія беззямельныя, пакуль тое, натрэслі зялёных грушак, частуюцца, з камфортам седзячы на турніках, ды яшчэ, нахабныя, гучна кпяць з потных, стомленых, перапэцканых землеўладальнікаў.

Магнаты, угледзеўшы салодкія грушы, не вытрымліваюць, кідаюць сваё марнае захопніцтва і таропка выходзяць у адкрыты «Космас». Цуда-каменьчык ашчадна вяртаецца ў свой схоў да наступнай гульні.

Падступае млявы цёплы вечар, гукі і цені робяцца густымі. Распаранае чырвонае сонца, пасечанае шматпавярхоўкамі, тлустымі скібамі падае на асфальт, на бетонныя клумбы, на цёмны бэз, і пахкі язмін, і сухую акацыю, на алычу і грушы. З вышыні турніка, адпаліраванага да бляску далонямі некалькіх пакаленняў, падзеленае кола «Зямлі» падаецца да смешнага нязначным і дробным. І нават дзіву даешся: ці варта было дзеля гэтага цягаць адзін аднаго за чубы і адсыпаць добрую меру кухталёў?

Буркуюць клапатлівыя шызыя галубы. Расчараваны ў язміне адплакаўся, паяснеў душой і разам з усімі радасна корпаецца

ў пясочніцы. Шчаслівы і ціхі, дапамагае будаваць пясчаныя гарады з магістралямі і плошчамі, з тэлевышкамі і мастамі. Тут, у пясочніцы, няма хітрых феадалаў, што цаляюць каменьчыкамі па нагах. Тут спакойна.

«Зямное» кола, зацертае маленькімі нагамі, забытае, павольна патанае ў цёплым летнім паўзмроку. «Космас» разліваецца вакол, вялізарны, цёмны, неабдымны, магутны, вырастае вышэй за турнік, за гаражы, за дрэвы, за дамы. Вышэй і болей за ўсё і ўсіх. І страшна, павіснуўшы на турніке, доўга глядзець у неба, у бясконцыя россыпы зор, бо здаецца, быццам сам падаеш туды, быццам падаеш уверх.

І трымціць высока-высока калматая блакітная зорка. Можа быць, таксама чыёсьці сонца са сваёй лічбачкай на баку.

— Заўтра выйдзеш? Будзем у «Зямлю» гуляць?

— А то ж!

# Піястры

Калі чалавеку пяць год, ён на рэчы глядзіць іначай. Можа быць, таму, што для маленькага пяцігадовага чалавека ўсё на свеце падаецца вялікім ды значным, нават дробязі. А можа быць, таму, што ў пяцігадовых і вочы неяк па-іншаму працуюць. Бачаць па-іншаму.

Каляровыя шкельцы, разрозненыя гузікі, пацеркі, кавалачкі тканіны, стужкі, старыя, савецкія яшчэ манеткі. Людзі дарослыя, сур'ёзныя, напэўна, скажуць — рэчы непатрэбныя, смецце. А для пяцігадовых — сапраўдны скарб.

Вунь пацерка, маленькая, празрыстая. Вазьмі на далонь, паднясі да вока — і расквеціцца, заззяе ўсімі колерамі вясёлкі. Пацерка-перліна, з сытым, мяккім бляскам на крутым баку, рассыпае светлыя водбліскі. Пакручастая ракавінка, звонку сціплая, шэрая, пяшчотна ружавее ўнутры. Гузікі з бабулінай скрынкі адзін за другога лепшы: той серабрысты, нібы луска рыбы, той ўвесь — светлы россып ззяйкіх кропачак, іншы цяжкі, металічны, з выціснутым гербам. Старыя капейкі, тонкія кругі металу, пацёртыя, заслужаныя, зараз на пенсіі, дажываюць свой век у пачэсным статусе пірацкіх піястраў. Надламанае пёрка паўліна, зеленаватае з залатым бляскам, з цікаўным сінявата-фіялетавым вокам, пад пальцамі пругкае. Абарваны металічны ланцужок выгнуўся, абвіў іншыя скарбы тонкім цельцам, серабрыцца цьмяна.

Ад усведамлення таго, што ты гэтым усім, бязмерна прыўкрасным, адзінаасобна валодаеш, весела пяе душа. І восеньскім днём, калі з пахмурнага неба сыпле, радасна бомкаючы па шкле, дождж і гуляць не пускаюць, як утульна сесці пад лямпаю і ашчадна, па адной перабіраць сабраныя каштоўнасці. Разглядаеш

кожную ўважліва, хаця бачыў да таго добрую сотню разоў, і ўсё-такі заўважаеш новае. То з’явіцца, схапіўшы водбліск святла, новае адценне ў пералівістых баках пацеркі, то штучная перлінка неяк асабліва будзе рассыпаць мяккае ззянне на скуру. Серабрысты ланцужок паблісквае, і ў гэтым бляску згадваецца цячэнне рачных хваляў, няўрымслівых і нямоўчных. У пёрка таксама металічны бляск, але на іншы манер, іншага адцення, іншай густаты. І дзіўна, і радасна, і ад гэтай ледзь заўважнай, ледзь улоўнай прыгажосці з салодкім трымценнем, з пяшчотаю адгукаецца нешта ў сэрцы.

— Любуешся? — пытаюцца дарослыя мімаходзь. Пытаюцца насмешліва і трошкі нават з’едліва: ім бачныя толькі кавалачкі цьмянага шкла, пафарбаваны пластык ды іншае смецце.

У сваёй патаемнай любові перад людзьмі насмешлівымі прызнавацца да болю цяжка і сорамна. Таму, каб зняць з сябе ўсе падазрэнні, трэба няўпэўнена паціснуць плячыма і адказаць, па магчымасці, разнадушна:

— Во-о-сь яшчэ!

Моцнае прыхаванае пачуццё зазвычай менавіта гэтым штучным, нязграбным, змушаным раўнадушшам і выдаюць.

Якім бы ні быў адзінаасобнікам, але радасцю хочацца дзяліцца. Хаця б дробачкай гэтай вялікай усеабдымнай радасці, якая перапаўняе, якая вось-вось цераз край перальецца. Таму часта скарб выцягваецца для гульняў.

І тады ў пакоі кіпіць падрыхтоўка. Не жартачкі вам — судастраенне. З паваленых крэслаў, з падушак, з пледаў. Кот ад гэтай шумнай мітусні трохі шалее, скача ўзбуджана. Ката ловяць у чатыры рукі, ката на руль аднаго з караблёў саджаюць. Кот — боцман.

Скрыначка, абклееная каляровай саломкаю, ляжыць на падлозе. У скрыначцы — скарб. Сапраўдны, пірацкі. Бо піраты без скарбаў, як і скарбы без піратаў, як вядома ўсім, — нонсэнс.

І плешчуць салёныя хвалі, і марскі бой ідзе. Жорсткі, крывавы. Не на жыццё, а на смерць. За скарб. За піястры.

— Піў! Піў-піў-піў!

— Гармата не кажа «піў-піў»!

— А… як яна кажа?

Гарматны эксперт, надзьмуваючы шчокі, вырачваючы вочы, расстаўляючы (для эфектнасці) рукі, дэманструе:

— П-х-ы-ы-х!

Боцман такой гарматы пужаецца і, пакруціўшы крупам, маладушна кідае і пост свой, і карабель. Падае ўпрост у ваду, хай сабе і ўяўную, ды ўсё роўна небяспечную. Там, як вядома, акулы, ды спруты, ды кашалоты. Спрэс галодныя і неймаверна зубастыя.

— Чалавек за бортам!

— П-х-ы-ы-х! — з энтузіязмам адгукаецца варожая гармата. Капітан, які толькі што страціў боцмана, абураецца:

— У мяне чалавек за бортам, а ты тут страляеш!

— Хачу — і буду! — адказвае не без выкліку другі капітан, прасякнуты незалежным пірацкім духам. І няўпэўнена дадае:

— Лопні мая… селязёнка.

Пірацкая анатомія, заўважым, рэч надзвычайна дзіўная. Селязёнка, напрыклад, мае падступную ўласцівасць лопацца па тузіну разоў за дзень.

Вусаты чалавек за бортам тым часам мірна сядзіць на канапе і гучна, з імпэтам вылізвае заднюю лапу. Скоса назірае, як капітаны змрочна сапуць, нядобра пазіраючы то адзін на аднаго, то на запаветную скрыначку.

Над уяўнымі хвалямі навісае зусім не ўяўная навальніца.

— Ты што гэта? — крывячы рот, пытаецца гарматны эксперт.

— Не, — парыруе другі капітан. — Гэта ты — што?

Лупяць адзін аднаго, не шкадуючы, падушкамі, з такім імпэтам, што толькі пер’е ляціць. За піястры. Калі на гармідар прыбягаюць дарослыя, равуць, захлынаючыся крыўдаю, абое. Піястры, нібы тое заклятае золата Нібелунгаў, ролю сваю адыгралі, і гэтая роля была трагічнай. Упрост можна оперу пісаць.

…я знайшла тую запаветную скрыначку, абклееную саломкай, некалькі год таму. Зазірнула туды не без хвалявання, хаця і ведала, што ў ёй пабачу. Дакладней, чаго пабачыць болей не атрымаецца.

Паглядзела на аблупленую, быццам бы пагаслую пацерку, на дзіравую перлінку, на зламанае пёрка, на разарваны ланцужок.

Зрэшты, скардзіцца няма на што. Гэты скарб, гэтыя піястры захаваныя трывала і надзейна. Аніводнаму нахабніку-пірату не адшукаць. Лопні мая селязёнка, калі гэта не так.

Бо яны засталіся не *там*, а — *тады*.

# У.

Кожная трынаццацігадовая дзяўчына мусіць быць закаханай. Гэта — аксіёма. Іначай няма пра што пашаптацца з сяброўкамі на перапынку, няма пра што перапісвацца з суседкай на ўроку геаграфіі. Няма прычыны, каб лішні раз падбегчы да вялізарнага люстэрка ў жаночай прыбіральні, у якім усе твары становяцца падобнымі да агуркоў — выцягнутымі ды зялёнымі. Няма прычыны сумаваць за абедам і выпадкова выпіць чужы кампот. Адным словам, пакута — не жыццё.

Самае крыўднае было тое, што Лільчыны аднакласніцы даўно і трывала, нават звыкла захапляліся хлопцамі з адзінаццатага. І гаварылі пра іх бясконца, і хваліліся, і радасна павісквалі, распавядаючы адна адной, як ледзь-ледзь не загаварылі, сутыкнуўшыся з аб'ектам свайго захаплення каля гардэроба. Сутыкаліся, між іншым, не сам-насам: па некаторых асабліва папулярных адзінаццацікласніках уздыхала адразу некалькі дзяўчатак, так бы мовіць, адзіным фронтам, за кампанію. Так што адважна кідаліся ў атаку ўсёй вісклівай купкай — і ледзь не збівалі аб'ект захаплення з ног. Аб'ект звычайна пакутліва чырванеў і сварыўся. Тады прыходзілі круглыя бабулькі-гардэробшчыцы і з лаянкай разганялі ўсіх:

— Вы тут яшчэ падуш*ы*цеся!

Захапляліся, варта сказаць, здаля. Калісьці куртуазныя рыцары абіралі сабе замужнюю даму сэрца і аддана служылі ёй, несучы любыя ініцыялы на шчыце. Так і тут: у большасці самых прыцягальных хлопцаў ужо былі каханыя дзяўчаты-аднагодкі. Апошнія ў асяроддзі раўнівых прыхільніц сваіх кавалераў спрэс мелі, як каралі дынастыі Каралінгаў, сталыя эпітэты

поруч з імем: Дурніца Дана, Валасатая Віка, Парася Каця. Чалавеку неабазнанаму магло б нават падацца, што гэта — сапраўдныя прозвішчы.

Лілі і распавесці асабліва не было пра што. Да трынаццаці год яна, вядома, дажыла не без сардэчных гісторый і рамантычных прыгод. Скажам, у дзіцячым садку ёй прызнаваўся ў каханні бялявы Мікітка, і гэта было б нават міла, каб Мікітка не біўся пры гэтым зялёненькім савочкам. Хтосьці з хлопчыкаў дарыў Лілі з нагоды розных святаў самаробныя карткі, старанна скленея іх мамкамі і бабулямі. Але ж гэта таксама лічыцца, праўда? Хтосьці дапамагаў намаляваць карабель ці данесці кніжкі да бібліятэкі. З кімсьці весела было віснуць на дрэве, гуляючы ў адважнага Робінгуда, і майстраваць лукі. З кімсьці атрымлівалася толькі люта біцца, а паміж бойкамі, захоўваючы статус кво, паказваць адно аднаму язык. Але ўсе гэтыя несумненныя знакі мужчынскай увагі — Ліля цудоўна разумела — зараз нікога ўразіць не маглі.

Так што на перапынку паміж матэматыкай і гісторыяй Валечка Сіўцова з таямнічым прыдыханнем расказвала пра сваю «даму сэрца» — найцудоўнага кучаравага Яўгена, які ўвечары звычайна шпацыраваў па плошчы Леніна з Дурніцай Данай. А Ліля сядзела побач і моўчкі дзьмулася. Вясёлай балбатлівай Валечцы яна сімпатызавала, і з той прычыны вельмі хацела гэтую ўтульную размову падтрымліваць. Але як? Не расказваць жа пра дурнога Мікіту і савочак. Глупства. А пра іншае, надзённае, блізкае расказваць не атрымлівалася. Упрост.

З гісторыі Ліля ішла задуменная і трохі нават засмучоная. Думала са скрухай: вось, трынаццаць год. Жыццё праходзіць, а што з таго? Прасцей было б, вядома, пайсці па шляху найменшага супраціўлення і таксама «ўтрэскацца» ў таго ж Яўгена. Вунь у Валечкі так прыгожа, так смачна гэта атрымліваецца, ажно зайздрасць бярэ.

А ў Лілі ўсё не так, як у людзей. Тое, што горача варочаецца ў сэрцы, і трымціць, быццам нацятая струна, і спявае,

увасабляцца ў словах не жадае аніяк. Да горла нешта падступае, і вусны сціскаюцца, і чырвань залівае шчокі. Валечка вунь не чырванее і не маўчыць. Валечка шчабеча, быццам птушачка, ажно сэрца радуецца.

Да таго ж, аб'ект уздыхаў Лілі быў «непрэстыжным». Падумаеш, дзесяцікласнік. Хударлявы, сутулы, хадзіў у расцягнутым чорным швэдры, трос нястрыжанымі русымі валасамі. Нічога такога выключнага, гэта сама Лілька цудоўна разумела і праз гэта дадаткова пакутавала. Добра каб спяваць умеў ці на гітары трэнькаць — ды не ж, талентаў не заўважана.

Але гарачыня нараджалася ўнутры маленькага Лільчынага сэрца, і разлівалася па ўсім целе, і засцілала вочы. Ад гэтага падкошваліся ногі і вусцішна займала дух. І недзе там, пад покрывам гэтай усеабдымнай мляўкай гарачыні нараджаўся жах. Ледзьве не першабытны, беспрычынны, але тым больш моцны.

Заўважыўшы недзе на калідоры знаёмы чорны швэдар, Ліля стартавала на трэцяй касмічнай хуткасці. Не да аб'екта захаплення, як іншыя дзяўчаткі-аматаркі, а ад яго. Куды заўгодна, абы — ад.

Аднаго разу, ледзь не сутыкнуўшыся з сваім аб'ектам на другім паверсе школкі, Ліля вокамгненна рэціравалася да лесвіцы, узвілася на трэці паверх і, пэўна, палезла б на гарышча, калі б там не было замкнута. Згадзіцеся, як пра такое можна расказваць утульнай Валечцы Сіўцовай? Дзіка. Бязглузда. Сорам.

Так, у маленькай Лілі жыў горды дух, які ў сваёй слабасці прызнавацца не жадаў анікому, нават ласкавай птушачцы Сіўцовай. Гордасць, аднак, мае сваю цану, а таму гордыя сэрцы заўжды пакутуюць у самоце.

Так прамінуў цэлы год, і чарговым навальнічным маем, які поўніўся спакуслівым водарам бэзу, на чарговай выпускной лінейцы развітваліся з былымі адзінаццацікласнікамі. Аматар расцягнутых швэдраў у гэты раз самому сабе здрадзіў: апрануўся ў строгі чорны касцюм, валасы падвязаў і нават расправіў плечы. Падносіў кветкі класнай Лількі і штосьці там гаварыў пра

падзяку. Валечка Сіўцова утульненька пасмейвалася ды пхала безуважную сяброўку локцем пад рэбры, а Ліля, грозна звёўшы бровы і падціснуўшы вусны, глядзела ўбок, на мокры ад навальнічнай залевы асфальт.

Яна і так выдатна ведала, дзе стаіць швэдраносец: адчувала скурай, як адчуваюць, заплюшчыўшы вочы, сонечныя промні.

— Глядзі, ну глядзі ж ты, ну! — горача шаптала Валечка, апякаючы словамі Лільчына вуха.

Гордая Ліля, не жадаючы распісвацца ўва ўласнай слабасці, не здавалася і не глядзела. Адчувала інстынктыўна, што нешта заканчваецца, што за ім непазбежна з'явіцца новае, выспее, забуяе. І гэтага новага — зноў жа, інстынктыўна — баялася.

І яшчэ болей баялася ад гэтага прадачування нечага новага, большага — зараўцці, зарумзаць, быццам трохгадовая.

Не тут жа. Не пры ўсіх. І дакладна не пры кплівай Валечцы.

…новае сапраўды прыйшло — новыя постаці, новыя ўсмешкі. Словы, вочы, рукі. Гарачыня накотвала хвалямі, але ўжо была звыклай, натуральнай. Не толькі не пужала — нават не здзіўляла.

Дарослая Ліля, праўда, на ўсё жыццё захавала прыхільнасць да хлопцаў з доўгімі валасамі ды ў расцягнутых швэдрах. Быццам драбочкі, аскялепкі таго, першага (лепшага) цяпла яшчэ жылі ў сэрцы і час ад часу варушыліся ў ім, нагадвалі пра сябе.

А калі часам было кепска, Ліля ставіла ў імбрычку гарбату з бергамотам і за ёю згадвала. І валасы, і швэдар, і сутулыя плечы. Ад гэтага чамусьці заўсёды лепшала — і жыць хацелася, і любіць, і верыць.

Твар ягоны, праўда, зусім сцерся з памяці.

# Ён

Ён, напэўна, мог бы лічыцца лавеласам. Мяркуйце самі: да мяне ў яго была цэлая процьма дзяўчат, і пасля мяне будзе ці не болей. Да таго ж, у нас вялікая розніца ва ўзросце. Вялізарная. Нават не дзесяць, не дваццаць гадоў, а — усе пяцьдзесят. Прымушае задумацца, ці не так?

І ўсё-ткі вельмі люблю яго. З самай першай сустрэчы.

Ён — філфак.

Помню, калі завітала да яго ўпершыню. Фае былой партыйнай школы, змрачнаватае, закаванае ў мармур, падалося мне падобным да тэатральнага. Як у тэатры, усё было працята чаканнем, і вялікі электронны гадзіннік насупраць уваходу надзвычай цырымонна адлічваў хвіліны. Як у тэатры, вірыў люд, усе гаманілі, усе кудысь спяшаліся, адбіваліся на хвілінку ў вялізарных люстрах — і тут жа крута паварочвалі, і знікалі на лесвіцах у невядомае.

— А дзе тут актавая… — нясмела запытала я ў студэнтаў, якія, захаканыя, беглі з надта засяроджанымі тварамі і стосамі спісаных паперак.

— Там! — адразу ж адказалі мне. І пяць рук паказала пяць розных кірункаў.

У буфеце распраўляліся з катлетамі, пілі гарбату і смяяліся паўнапраўныя філфакаўскія навучэнцы. Я, якая тады толькі планавала сваё паступленне, глядзела на іх, як падавалася, надта загадкавых, дарослых і недасяжных, ледзь не з жахам. Катлеты, ува ўсякім выпадку, імпанавалі мне значна болей.

Актавая зала ўразіла — найперш — да дрыжыкаў агромністай люстрай пад столлю. Я выразна чула, як двое такіх самых

абітурыентаў, як і я, баязліва паглядаючы ўверх, горача шапталіся.

— …а раптам зваліцца? — данеслася да мяне.

Парачка шаптуноў перасела. Пакінутыя крэслы з сухім скрыгатам заляскалі ім услед, і аўдыторыя, спрэс са знерваваных абітурыентаў, гэтае пляскане падхапіла, на ўсякі выпадак выдаўшы апладысменты.

Мусіць, ужо там, у актавай зале, якую вартавалі гіпсавыя Колас і Купала, дзе з-за занавесу нясмела паглядала белая галава Леніна, я зразумела: гэта — маё. І падобны да тэатральнага вестыбюль, і замглёныя люстры на сценах, і шумлівы натоўп, і загадкавы паўзмрок на лесвіцах. Ад думкі, што я буду тут вучыцца, што буду мець поўнае права на ўсе мясцовыя загадкі, ажно трохі круцілася ў галаве.

А загадкі паказалі сябе некалькі пазней. Дакладней — у першы тыдзень навучання, калі, пасля досыць працяглага блукання па калідорах так і не атрымалася адшукаць спартыўную залу.

— Трэба выйсці на бакавую лесвіцу паміж трэцім і чацвёртым паверхамі, — ахвотна тлумачылі мне. — А тады падняцца. Леваруч і будзе.

— Можна, канечне, і з чацвёртага спускацца, — радасна падхоплівалі тут жа.

— Не-не-не, вось гэта не варыянт, — хіталі галавой. — толькі з трэцяга.

— Ну, ці з другога, — заўважалі напаўголаса. — Толькі тады падымацца вышэй.

Усе гэтыя парады, як ні дзіўна, дапамаглі мала. Я марна выпісвала колы, быццам канкістадор вакруг Эльдарада, і так і не знайшла ані выхадаў з трэцяга на чацвёрты, ані з чацвёртага на трэці.

Гэтых самых «бакавых» лесвіц, як выявілася пасля, было дзве.

Лесвічнае пытанне вырашылася яшчэ праз два тыдні. Прыблізна столькі патрэбна першагодку, каб нумары аўдыторый

і маршруты да іх сяк-так урэзаліся ў памяць. Гэта, вядома, не азначае, што абыходзілася без блытаніны і беганіны. Хутчэй наадварот: беганіна і блытаніна ўзрасталі ў геаметрычнай праргэсіі.

Падчас перапынкаў усе стройнымі радамі скіроўваліся ў буфет. Шукалі не толькі ежы для страўнікаў, але і для галоваў — у букіністычным кіёску. Сродкі ў студэнта невялікія, таму часам даводзілася абіраць паміж галавою і жыватом. Зрэшты, што да кітовага спеву пустога страўніка, калі ў цябе ў руках шыкоўнае і такое жаданае выданне «Старэйшай Эдды», ды ў добрым перакладзе, ды з ілюстрацыямі, ды ў супервокладцы!

Так, філфак вучыць правільна расстаўляць прыярытэты.

Ён, філфак, заўсёды побач. Ён, гарэзлівы, рознымі почыркамі перапраўляў строгія аб’явы «Не пакідайце Вашы рэчы на калідоры» на Багушэвічаўскі лад:

— Каб ня ўпёрлі.

Ён на вялікіх лістах з цукровымі прызнаннямі і сардэчкамі, падрыхтаванымі да чатырнаццатага лютага, на непадпісанае, шматкроць абведзенае чырвоным стрыжнем «Люблю Беларусь» заўжды адказваў:

— То ўзаемна.

Ён жывіўся графіці на старых партах, патыхаў дробным кніжным пылам. Бліжэй да вечара стомленыя паркетныя дошкі распраўлялі спрацаваныя спіны, і падавалася: гэта ён нягучна пераводзіць дыханне.

Ён — гэта людзі, якія вучаць і вучацца, якія працуюць на ім. І тыя людзі, што працавалі калісьці, і тыя, што яшчэ будуць працаваць. Усе, купна, паяднаныя ў пазачасавае адзінства.

Ён — філфак.

# Муза

Сімковіч прачнуўся з раніцы нечакана радасны. Ціхутка ляжаў пад коўдрай, глядзеў у столь. Успамінаў.

У сне прыйшло да яго тонкае дзяўчо, пранізанае святлом, з ясным тварыкам, з мудрымі вачыма. Дзявочая постаць, захутаная ў нешта бязважкае, белае, быццам снег, быццам мара, быццам чайкі, кудысь ляцела, і падсіненыя дажджом хмары плылі над і пад ёй, і сонца павольна падымалася над морам. І словы яшчэ былі — жылі ўпрост у спакуслівых дзявочых вуснах, але іх, як Сімковіч не намагаўся, успомніць не мог. Ды і ці важна гэта?

І бездакорны прыгожы тварык, і фігурка, і поза, — усё так і стаяла перад вачыма. Там, унутры, віравала, і радасная гарачыня расплывалася па ўсім целе з кожным ударам сэрца.

Сімковіч спружыніста падскочыў з ложка, рашуча адкінуўшы коўдру, і, як быў, стаў за мальберт. Размяў пальцы, прыкрыў на хвілінку вочы, каб згадаць, каб затрымаць тую, у сне пабачаную, у яе адвечным палёце, і ўзяўся за пэндзаль. Маляваў апантана, упэўнена, з імпэтам, з жарсцю, так, як, мусіць, не працаваў ужо гадоў пяць. І, працуючы, з ціхім захапленнем разумеў: перад гэтым, што зараз вырываецца з-пад яго рук, усё, раней зробленае, — лухта. Бо гэта — адзінае. Сапраўднае. Такое, што раз на жыцці бывае, і тое не ў кожнага.

Працаваў, не зважаючы ані на голад, ані на стому, ані на тэлефон, які раз-пораз падаваў голас з суседняга пакойчыка. З асобных штрыхоў, з асобных ліній паступова пачынала глядзець Яна — тая самая, светлая, з натхнёным позіркам мяккіх вачэй. І Сімковіч бачыў гэта, заўважаў дробныя рысы Сапраўднага

ў толькі-толькі распачатай працы і радаваўся, як дзіцёнак, і мармытаў пад нос, і гаварыў з Ёю, і смяяўся.

Толькі пад вечар, стомлены, спустошаны адваліўся ад новай работы, агледзеў прыдзірліва. Яшчэ раз не без задавальнення ўпэўніўся, што гэта — Яна, і з салодкім заміраннем сэрца адступіў.

Хацелася паліць. І яшчэ хацелася да людзей, бо радасці ў душы было аж занадта, бо падавалася: грудзі вось-вось не вытрымаюць, не змесцяць — і разарвецца тое нікчэмнае, што завецца Валерам Сімковічам, а незямная, нябачаная, невыносная радасць атрымае свабоду.

Запаліўшы, нетаропка крочыў па вуліцы, нейкай асабліва светлай, нейкай — нетутэйшай. Нязвыклай. Чароўнай. Узіраўся ў твары мінакоў, і ў кожным з іх бачыў адбітак той, сваёй, адзінай, ледзь-ледзь схопленай фарбаю на палатне. І дзеля гэтага прыхаванага адбітку любіў, пакутліва і радасна любіў кожнага мінака паасобку і ўсё чалавецтва цалкам. Вось, здавалася б, абняў бы, прыціснуў бы да сябе адразу ўсіх, і цёплае красавіцкае сонца, і кволыя гарадскія дрэўцы, і ўсе гэтыя змрачнаватыя сталінскія забудовы — усіх, усё абняў бы з бясконцай цеплынёй.

У падобным настроі Сімковіч дайшоў да кавярні. Шпульнуў недакурак у сметніцу — і не пацэліў. Засмяяўся, падняў — і не пацэліў зноў.

— Ды што ж ты… — абурыўся скрозь зубы.

І не пацэліў у трэці раз.

Гэта была дробязь, лухта, асабліва калі параўнаць з той сусветнай усеабдымнай радасцю, якая жыла ў Сімковічы. І ўсё-такі ў кавярню ён увайшоў спахмурнелы. І думкі бездапаможна круціліся, і ўсё згадвалася: што Яна тады і там, у сне, казала? Здавалася, што вось-вось атрымаецца ўспомніць — і ўсё адразу стане на сваё месца.

У кавярні народу было няшмат. Мармытаў нешта сваё маленькі тэлевізар поруч з барнай стойкай. Тут жа сумавала некалькі афіцыянтаў. За адным з круглых столікаў, укрытых

пажоўклымі абрусамі, Сімковіч заўважыў прыяцеляў і рушыў да іх.

Прыяцелі, Сівіцкі і Куфаль, абмяркоўвалі самыя блізкія выставы. Меркавалі, хто і што будзе паказваць, паўтаралі даўнія плёткі і барадатыя, як сам руды Сівіцкі, жарты. Сімковіч сядзеў паміж імі, недасяжны і далёкі, і толькі моўчкі пасміхаўся. Ведаў: перад той, якую здолеў схапіць, выцягнуць з уласнага трызнення, усе гэтыя размовы — нікчэмнасць. І Сівіцкі з ягонымі саладжавымі партрэцікамі, і Куфаль з ягонымі пошлымі нацюрмортыкамі, і тыя, іншыя, астатнія, імя якім — легіён.

Адчуванне ўласнай несумненнай перавагі доўга хаваць не атрымалася.

— А ты чаго гэта ціхі такі? — падазрона спытаў Куфаль, папраўіўшы акуляры з тоўстымі шкельцамі.

— Набраўся, — аўтарытэтна заключыў Сівіцкі. — Набубеніўся.

— Сядзіць, смяецца, — гнуў сваё Куфаль. — Мона Ліза мясцовага розліву.

— Р- р- разлівачна і на вынас! — дзіка зароў Сівіцкі, пужаючы афіцыянтку.

Сімковіч, паморшчыўшыся, адмахнуўся ад іх, быццам ад мух. Зрэшты, яны, з іх маленькімі праблемкамі, з іх шэранькімі размовамі і былі — мухі. Нават меней, чым мухі.

Асабліва перад Ёю. Адзінаю, непаўторнаю, вечнаю.

— Я — пішу зараз, — выгукнуў Сімковіч радасна. І раптам сарамліва заружавеў, як адзінаццацікласніца, што распавядае сяброўкам пра аб’ект свайго кахання.

— Н-ну? — прыўзняў бялёсыя бровы Сівіцкі. — З чым вас і віншую.

— Для выставы? — дзелавіта азваўся Куфаль. — Ці хтось замовіў?

Сімковіч толькі зноў усміхнуўся. Уздыхнуў глыбока, абвёў прыяцеляў позіркам. І, зноў адчуваючы бязмежную цеплыню, загаварыў пра Яе, пра тонкія рукі, пра валасы, што лятуць

па ветры, і, самае галоўнае, пра вочы. Было дзіўна і нязвыкла ўбіраць яе не ў фарбу, а ў словы, але Сімковіч стараўся, як мог. І пачуваў сябе пры гэтым не меней як Дантэ, халера яго вазьмі, Аліг’еры.

— Сапраўдная, — нарэшце, сказаў Сімковіч, як быццам бы падагульняючы сваё апісанне. Задаволены і горды, бачыў, як выцягнуліся твары ў разумніка Куфаля і нават языкатага Сівіцкага.

Ім — дзе. Ім — як. Яны такога не сняць, завязлыя ў сваім, звыклым, застылыя ў аднойчы абраных формах, фарбах, зместах.

І з сваёй зорнай вышыні акрылены Сімковіч і Куфаля, і Сівіцкага шчыра пашкадаваў. Але шкадаванне гэтага, у параўнанні з вялізарнай радасцю, было так мала, што яно амаль і не адчувалася.

Каб толькі не сядзела ў галаве, каб не назаляла, як стрэмка, згадка пра тыя згубленыя словы. Яна нешта казала — але што? І чаму не згасае ўпэўненасць, што словы тыя былі чамусь важныя?

Сімковіч пакруціў галавой, быццам намагаючыся вытрасці адтуль непрыемныя думкі. І, па-ранейшаму прасветлены, празрысты для ўсеабдымнай радаснай цеплыні, мовіў:

— Гайда пакажу.

Пайшлі.

Сонца паспела сесці, караскаўся па дахах змрок, і вуліцы пачалі абрастаць шарамі жоўтага святла. Сімковіч па святле крочыў, і гаварыў многа і не надта звязна пра карціну, пра сапраўднае і пра Яе. Куфаль і Сівіцкі, агаломшаныя, сцішаныя, быццам прыціснутыя веліччу, ішлі моўчкі. Каля самага дому Сімковіча — шэранькай пяціпавярхоўкі — Сівіцкі, аднак, прачысціў горла і загаварыў. Не таму, што гаварыць хацелася, не таму, што размова таго патрабавала, а проста каб не маўчаць.

Веліч Сімковіча і яго ж абразлівая паблажлівасць пачынала ўжо добра раздражняць абодвух яго прыяцеляў.

— Глядзі-тка, — прапеў Сівіцкі, задуменна праводзячы пальцамі па рудой барадзе. — У вас тут новы рэкламны шчыт паставілі. Прагрэс, так бы мовіць, дакаціўся.

Сімковіч толькі чмыхнуў: знайшоў, да душы, калі гаварыць пра нейкую там рэкламу. І гэта амаль на парозе неймавернай, нябачанай, са сну і мрояў сатканай прыгажосці. Сапраўднай прыгажосці. Сапраўднага мастацтва.

— Падумаеш, — пагардліва сказаў Сімковіч, скоса зірнуўшы на шчыт.

Зірнуўшы адзін раз, зірнуў і другі, і трэці. А пасля, вырачыўшы вочы і прыадкрыўшы рот, так і замёр — быццам істота з вядомай карціны Эдварда Мунка набыла цялеснае ўвасабленне.

На шчыце сярод падсіненых пульхных аблокаў плыла, быццам мара, быццам чайка, раскінуўшы тонкія рукі, ягоная муза. І светлыя вочы глядзелі і пранікнёна, і сумна, і з пунсовага роту, здаецца, ліліся словы.

Пад ножкамі ў музы быў змешчаны агромністы пачак цыгарэт з зыркім, узмоцненым неонавымі агеньчыкамі надпісам.

— Гармонія, — ледзь варушачы вуснамі, чытаў аслупянелы Сімковіч, і ўласны шэпт здаваўся яму громам. — Гармонія, лёгкая, быццам узмах пэндзля.

Расказвалі пасля, быццам Сімковіч спрабаваў ці то застрэліцца, ці то зарэзацца. Хлусілі, вядома.

Проста піць стаў болей.

## Ельнікаў і птушка шчасця

Упершыню Сцяпан Пятровіч Ельнікаў пабачыў яго на нейкай выставе — той, крываногі, шырокі, як печ, сноўдаўся каля карцін. Трос нямытымі валасамі, назнарок артыстычна адпушчанымі да плеч, а твар — шырокі, масляны, з рэдкай бародкай — рабіў задуменны. Таксама, відаць, назнарок. Сцяпан Пятровіч неахвотна адарваўся ад акварэлі з залітай дажджом гарадской вуліцай, спадылба зірнуў на заплямлены ружовенькі світар, на кароценькі брудна-блакітны каўнерык кашулі і проці волі паморшчыўся. Заварушылася ў сэрцы маленькая атручаная іголка, і настолькі невыносным падаўся гэты, ружовенькі, што захацелася або на поўную завыць, або шпульнуць у задуменнага крэслам.

У самым блізкім крэслы сядзела сівая экскурсавод у сціплай сіняй сукенцы. Ды й поўні не было, так што выць не выпадала. Быў толькі душны майскі дзень, ад цяжкага бэзавага водару, што густа цёк праз адчыненыя вокны, думкі перайначваліся, перакручваліся. Вакол хадзілі прыгожа апранутыя, нейк асабліва чыстыя і вясёлыя людзі, гулі, быццам пчолы, так што Сцяпан Пятровіч стрымаўся. Прайшоў паўз ружовенькага, прыплюшчыўшы вочы, прыціснуўшыся да голай, без карцін сцяны, каб — не кранущца, барані Бог, не зачапіць нават плячом.

— Ах, ах! — горача шапталі ўбаку дзве бледныя дзяўчыны. — Які цікавы! Які!..

Глядзелі страснымі вачыма, акулярамі павялічанымі ўтрая, кудысь за спіну. Сцяпан Пятровіч, які ўжо разглядаў укрытыя снегам бярозкі, ад якіх так і веяла зімовай свежасцю, азірнуўся.

Ружовенькі, з тым самым задуменным тварам, шумна высмаркаўся ў далонь і, звыкла выцершы руку аб штаніну, тыцнуў кароткім тоўстым пальцам у сумную дажджлівую акварэль.

— Харошае асвятленне, — сказаў глыбокім баском. — Тут бы я і таго… павесіўся.

Знайшоў вачыма сваіх шэрых аматарак, падміргнуў, паказваючы, што гэта — жарт. Шэрыя зачырванеліся і захіхікалі. На высокіх абцасах падскочыла загадчыца музея, завілася вакол ружовенькага, закахана зазіраючы таму ў сонныя вочы.

— Тут? — пытала салодкім голасам. — Тут, Валяр'ян?

Той толькі трос тлустымі валасамі і, стараючыся рабіць адухоўлены твар, глядзеў у столь. Пабеглі, дробна перабіраючы ножкамі, апранутыя ў сінія камбінезоны рабочыя. Цягнулі нешта квадратнае, закручанае ў цёмную тканіну, і ў Сцяпана Пятровіча зноў нядобра ёкнула сэрца.

Пранікнёны тонкім сумам пейзаж знялі. На яго месцы зараз вісела нешта, вельмі падобнае да той паперы, якую маляры, фарбуючы сцены, кладуць на падлогу. У правым верхнім куце нават былі круглыя падпаленыя сляды — там гасілі цыгарэты. Апрача гэтага Ельнікаў прафесійным вокам разабраў чырвоныя адбіткі рук, ног, колькі крывых жоўтых квадрацікаў і пачварную зялёную субмарыну на хісткіх ножках. Дакладней, гэта Ельнікаву падалося, што — субмарына на ножках, таму што сам аўтар, адставіўшы адну нагу і шырока разявіўшы рот, каментаваў для гледачоў так:

— …непераможная зялёная птушка шчасця скача па залатых палях… экзістэнцыяльны пошук сябе… за межамі чалавечага існавання…

Сцяпан Пятровіч гучна пацягнуў носам. У яго часы птушка шчасця была сіняга колеру і значна больш падобнай да ўласна птушкі.

— …у маіх руках сканцэнтравана энергія Сусвету! — гарлаў ружовенькі, дэманструючы ўсім свае далоні. Чырвоная фарба

з іх яшчэ не сышла — ці то таму, што карціну малявалі адносна нядаўна, ці то таму, што ружовенькі дальтонік лічыў сябе вышэй за гігіену.

— Космас, — вішчаў і пляваўся ружовенькі, ламаючы пальцы. — Транслюе свае ідэі у мой мозг, а я — звышправаднік. Я даю вам ідэі Космаса, я вяду вас да касмічнай імперыі!..

Вакол ружовенькага патроху збіраліся гледачы. Слухалі, перашэптваліся, кпліва ўсміхаючыся, касіліся на карціну з субмарынай шчасця. Бледненькія дзяўчаты, актыўна працуючы лакцямі, прабраліся наперад і ціха млелі ад свайго нямытага куміра. Загадчыца музея чырванела, хітала галавой у такт словам ружовенькага, усміхалася пяшчотна, прывабна, паводзіла плячыма. Сцяпану Пятровічу, нягледзячы на ўсё выхаванне, дужа хацелася плюнуць. На касыя квадрацікі, на холст з тлустай аднавокай птушкай, укрыжаванай на прапелеры, на касмічныя ідэі, якія транслююцца ў нечы там мозг, але асабліва — на ружовенькага блазна. Так, з ціхай злосцю думаў Ельнікаў. Вішчы-вішчы. Каб я быў сапраўдным мужчынам, я б схапіў цябе, падшыванца, за каўнерык і затрос бы, затро-о-о-с, ажно пакуль…

— Сцяпан Пятровіч? Вы? — гэта падышла, гучна цокаючы абцасамі, як капытамі, загадчыца. — Вось, хачу вам, як мастацтвазнаўцу і крытыку, прадставіць. Наш малады геніяльны творца, перспектыўны і чароўны…

— Валяр'ян, — прабасіў ружовенькі. — Проста Валяр'ян. Як Мадонна.

Працягнуў потную пафарбаваную далонь з бруднымі крывымі пазногцямі. Пад калючым позіркам загадчыцы Сцяпан Пятровіч сумеўся і гэтую далонь усё-такі паціснуў. Паморшчыўся, з ветлівай і пакутлівай усмешкай адабраў сваю руку ў ружовенькага, затрос ёю ў паветры. Думаў мутна, з сумам і гаротай, як бы незаўважна дастаць з кіжэні пінжака насоўку і выцерці скуру.

— Насоўку пасля спаліць, — бязгучна сказаў Ельнікаў, супакойваючы атрутную іголку ў сэрцы. — А руку… руку можна і спіртам пасля апрацаваць. Пазней. Пасля.

А ружовенькі балбатаў пра сябе, Рэмбранта і Да Вінчы (менавіта ў такім парадку), пра тое, што ён — несумненная зорка першай велічыні, галактычны геній і супертворца.

— Але вы гэта, канечне, заўважылі? — хітра спытаў геній ў Ельнікава і фамільярна тыцнуў локцем. — А, Сцяпан Пятровіч, дарагі-любімы? А, Сцёпка?

Ельнікаў з дзяцінства не любіў фамільярнасці. Нават нявесту сваю, трапяткую Кацярыну Сяргееўну, навучыўся належным чынам абдымаць адно праз два гады пасля знаёмства. І таму басок ружовенькага рэзаў яго па жывому, і локаць рэзаў, і «Сцёпка» рэзаў таксама. Ружовенькі мог проста выняць з кішэні складны ножык з касцяной ручкай — Сцяпан Пятровіч чамусьці цвёрда ўпэўнены быў, што ножык у ружовенькага ёсць, — і пырнуць Ельнікава пад рэбры.

— Напішыце пра яго, — загадчыца навалілася з іншага боку і пальцамі з яркім чырвоным манікюрам учапілася мастацтвазнаўцы ў плячо. Павісла на ім патрабавальным мёртвым цяжарам, а позірк быў яшчэ цяжэйшы, быццам у вялікай драпежнай птушкі. Па спіне папоўз халадок, сэрца закалола, змазаліся і паплылі і ружовы світар, і барвовы манікюр. Перад тварам Ельнікава замахалі глянцавым альбомам, дзе знаёмая раскормленая зялёная субмарына на ножках займала ўсю вокладку.

— Напішыце, — па-каралеўску кіўнуў, дазваляючы, ружовенькі. Зноў гучна, са смакам высмаркаўся ў далонь і, нязмушана скарыстаўшы рукаў замест насоўкі, спытаў у экскурсавода: — А дзе тут, цёця, прыбіральня? Хочацца… выпісацца. Ха!

Экскурсавод збянтэжылася, залупала вачыма, а загадчыца змушана хіхікнула. Ельнікаў пакорліва ўзяў альбом з фатаграфіямі работ генія.

— Напішу, — сказаў, гледзячы пад ногі і ненавідзячы сябе. — Чаму б не… Такі малады, такі… таленавіты…

Тут нянавісць да сябе перапоўніла, так што горла звяло сутаргай. Давялося моўчкі адкланяцца.

Дома Ельнікаў доўга, старанна паліў безнадзейна выпэцканы ў ружовенькім кавалачак тканіны, які нядаўна быў насоўкай. І яшчэ даўжэй апрацоўваў спірытусовай настойкай і руку, і страўнік. Душу апрацоўваў. На ўсякі выпадак.

Апрацаваўшы, сеў за альбом. Тупа глядзеў на сініх распухлых жанчын, падобных да вынесеных на бераг кітоў, на чырвоныя плямы з лапамі павукоў і змяінымі хвастамі, на касыя зямлістыя твары, кіпцюры, іклы і рогі, усе быццам бы наваляваныя навучэнцам другога класа пачатковай школы. Падалося, што вось-вось да гэтых касабокіх нячысцікаў з'явіцца Вій і папросіць падняць яму павекі. Сцяпан Пятровіч здрыгануўся, дапіў рэшткі дэзінфекцыі і пайшоў на кухню паліць альбом. Выдзіраў старонкі, падпальваў і радасна глядзеў, як курчацца ў полымі жудасныя, агідныя істоты. Спаліўшы, насыпаў вакол сябе ахоўнае кола з попелу, скруціўся ў ім па-сабачы і паснуў.

Спаў неспакойна. У сне прайшоў праз кухню ружовенькі, а за ім цяжка, так, што скаланаліся сцены, скакала па-вераб'інаму і квахтала зялёная субмарына.

З таго і пачалося. На праклятага ружовенькага Ельнікаў пачаў натыркацца ўсюды: той раптам вырастаў з мармуровай калоны метро, выплёскваўся з натоўпу ля кінатэатра, прадуктовай крамы або роднай ельнікаўскай дзевяціпавярхоўкі. Голас яго, гулкі самаўлюбёны басок, цыкутаю ліўся з слухаўкі, так што Сцяпан Пятровіч урэшце зусім перастаў падыходзіць да тэлефона. Ружовенькі мільгаў на вуліцах, і трос бруднай лапай, і равеў прыветна цераз людскую плынь:

— Эге-ге-ге! Сьмён Птро! Сцёпк! Любімы! Дарагі! Эге-ге! Напісаў?

Мінакі паглядалі непаразумела, многія смяяліся. Сцяпан Пятровіч толькі крывіў рот і таропка рушыў далей, не азіраючыся. Аднойчы ружовенькі, яшчэ больш аброслы, апрануты адно ў дзіўныя драныя шорты, што ўсяму свету паказвалі тоўстыя валасатыя ногі, натыркнуўся на Ельнікава з Кацярынай Сяргееўнай, цудоўнай, пяшчотнай, белатварай.

— Хто гэта? — з жахам спытала Кацярына Сяргееўна пасля чарговага «Эге-ге-гей!». У Сцяпана Пятровіча задрыжалі вусны.

— Не ведаю, — паспешліва схлусіў ён і з сілай пацягнуў пяшчотную Кацярыну Сяргееўну за сабой. Тая азіралася цераз плячо, акругляючы вочы.

Жыццё было атручана. Назаўжды, незваротна. Метро Ельнікаў стаў баяцца пасля таго, як ружовенькі, прыціснуўшы яго да краю платформы, з імпэтам сыпаў крывымі словамі і слінай, напіраў, наступаў на ногі. Ельнікаў тады быў у новых бліскучых, як сонца, ботах, ехаў з букетам белых руж да Кацярыны Сяргееўны. Стаяў, спрабуючы нейк схавацца за іншых пасажыраў, адплёўваўся ад тлустых космаў, якія ветрам заносіла проста ў рот. Глядзеў у пустыя вочы ружовенькага, у яго бяздонную зяпу і думаў: і што ж табе, гадавец, трэба ад мяне, што ты да мяне, да жывое душы, дачапіўся? У тунэлі бліснулі агні цягніка, і прыйшла ідэйка — вострая, быццам нож, і спакушальная, як белыя рукі Кацярыны Сяргееўны.

— На рэльсы б яго, — прамармытаў Ельнікаў. — На рэльсы…

У рот яму зноў набілася валасоў ружовенькага, ён закашляў, запляваўся з агідай. Падышоў цягнік, і натоўп, ратуючы, знёс Ельнікава проста ў вагон. Ружовенькі застаўся за шклянымі дзвярыма, гарлаў, як звычайна:

— Эге-ге! Напісаў? Напішы! Пятровіч! Эге!

— Каб ты здох! — галасна, з надрывам закрычаў Сцяпан Пятровіч. Цягнік мякка крануўся і паехаў. Ельнікаў, цяжка дыхаючы, сеў на канапку, і зразумеў, што іншыя павольна адсоўваюцца, пазбягаюць сустрэцца позіркамі.

Даехаў, прыціснуўшы да грудзей букет, да Кацярыны Сяргееўны, і доўга плакаў у яе на канапе. Кацярына Сяргееўна, нічога не разумеючы, клала яму на плячо белую далонь і, спачуваючы, другой рукой размазвала па сваім гожым твары слязінкі.

— Забіў ён мяне, паскуднік, — рыдаючы, казаў Ельнікаў. — Забіў, людцы! Лю-у-дцы-ы!

Пад раніцу сяк-так супакоіўся, слабым ломкім голасам папрасіў у Кацярыны Сяргееўны ноўтбук і, усхліпваючы, доўга нешта пісаў. Кацярына Сяргееўна пужліва сачыла за ім з-за паўпрыкрытых дзвярэй, слухала мерны шоргат клавіятуры і то маніякальны смех, то слёзныя скаргі.

— Не, не, — шаптаў Ельнікаў. — Напішу табе, усё напішу, адно адчапіся, адно ідзі, скуль прыйшоў. І не трэба мне тут, і не трэба…

Пішучы і шэпчучы, усё болей супакойваўся, дыхаў роўна, нават заўсміхаўся. Бадзёра біў пальцамі па клавіятуры, адчуваючы, што атрута паступова сыходзіць, што словы звязваюць, спавіваюць ружовенькага падшыванца намёртва, так, што не вырвецца.

Пісаў:

— …жывапіс Валяр’яна прасякнуты экзістэнцыяльным пошукам самога сябе ў свеце. Мастак адважна спрабуе вырвацца за межы чалавечага існавання, спрабуе зазірнуць у глыбіні падсвядомага. Космас транслюе…

На касмічнай трансляцыі Сцяпан Пятровіч спыніўся, пажаваў вуснамі, перачытаў фразу і за стогнам адштурхнуў ноўтбук ад сябе. Ускочыў, паваліўшы табурэт, учапіўся ў прарэджаныя гад**а**мі валасы і забегаў па кухні, слепа натыркаючыся на шафкі. Кацярына Сяргееўна ўздыхнула і, паколькі была жанчынай не толькі прыгожай, але і рашучай, націснула на тэлефоне тры сакраментальныя лічбы.

— Убіваецца, — плаксіва сказала дзяжурнаму «хуткай». — Мужчына, сорак пяць год!

«Хуткая», мігаючы сінім, шпарка прынеслася па праспекце. У кватэры Кацярыны Сяргееўны востра запахла лекамі. Сінявокі доктар, яшчэ зусім малады, акуратна складаў у торбу склянкі, і дабрадушна казаў, што гэта — нервовае. Сцяпан Пятровіч, ціхі, выцягнуўся на канапе, да падбароддзя ўкрыты коўдрай, уздыхаў. Пасля ўколу думкі сталіся светлымі, крышталёвымі і бязважкімі, і знікла іголка ў сэрцы, і дыхаць было лёгка.

Супакоены Ельнікаў пазяхаў і толькі прымружваў вочы, пакорліва засынаў пад лагодны доктараў барытон.

На другі дзень, свежы і вясёлы, Ельнікаў скіраваўся на працу, нават не заязджаючы дамоў. Насвістваў, спускаючыся ў метро, і нікога там не сустрэў. Ружовенькая мара знікла, развеялася. Сцяпан Пятровіч разабраў паперы на сваім стале, закончыў артыкул-агляд сучаснага жывапісу і нават паспеў схадзіць на абед у кафэ непадалёк.

Калі, асцярожна несучы папяровы кубачак кавы, вяртаўся, зноў трывожна варухнулася знаёмая атрутная іголачка. Сцяпан Пятровіч нават спыніўся на лесвіцы на другі паверх, каб аддыхацца, паставіў гарачы кубачак на падваконне. Акно ў ціхі цяністы дворык было адчынена, пяшчотна шапацеў пад ветрам квітнеючы бэз. Маладзейшы калега павітаўся, спускаючыся.

— Добры дзень, — адгукнуўся Ельнікаў, квола ўсміхнуўся, правёў калегу вачыма да дзвярэй вестыбюля. І ўжо там натыркнуўся позіркам на знаёмы ружовы світар.

— Эге-ге-гей! — сіпла зараўло, раскацілася пад столлю. — Сцёпк! Эге-ге!

Сцяпан Пятровіч застыў. Ружовенькі жвава ўскараскаўся па прыступках, падступіў непрыстойна блізка, так што дыханне яго непрыемна заказытала Ельнікаву шыю.

— Сцёпка, — сказаў ружовенькі. Пахла ад яго півам і потам. — Напісаў? Пра генія? А?

Шалёна закаціў вочы, трасянуў нямытыміваласамі і пакрыўджана дадаў, што за няўважлівасць да касмічнага генія, звязанага з Абсалютам, грамадства можа і павінна закляймíць пагардай.

— А хочаш, — жыва спытаў ружовенькі і рыгнуў. — Хочаш, Сцёпачка, я твой партрэт накалякаю? Упрост бачу цябе на карціне! Ха-ха!

Сцяпан Пятровіч вельмі жыва ўявіў уласны твар так, як бачыў яго касмічны геній, — крывы, бязносы, зялёнага колеру,

з ашчэранымі жоўтымі зубамі і адной чорнай рукой, што вытыркаецца з-пад кадыка. Сцяпану Пятровічу стала млосна.

— І бабу тваю намалякаю, — пагражаў ружовенькі. — Будзе тыпу суперсэксуальная касмічная Венера. Па-першае, шчупальцы…

Закончыць думку геній не паспеў: Сцяпан Пятровіч зарычаў, са стогнам схапіў яго ўпоперак тулава і шпульнуў у акно, толькі хруснулі галінкі.

У судзе Ельнікава апраўдалі.

## Інструкцыя для хворых

Надвор'е не радуе, у баку коле, голас здраджвае, рукі дрыжаць, а галава плавае ў тумане? Віншуем вас. Захварэлі.

Многія людзі хварэюць бессістэмна, па-аматарску, маючы пра гэты працэс досыць расплывістае ўяўленне. Вядома, такое безадказнае стаўленне не можа не адбівацца на якасці іхняй хваробы.

Нельга не прызнаць, што асобныя індывіды маюць прыроджаны талент да хвароб, атрымаўшы яго, так бы мовіць, з малаком маці. Большасць жа людзей праз усё жыццё набывае неабходныя веды цяжкім вопытным шляхам, губляючы на гэтым шляху час, нервы ды — эпізадычна — лаянку.

Мы не можам не цешыць сябе думкаю, што пасля прачытання нашай інструкцыі працэс хваробы для шырокіх мас болей не будзе загадкай. Хвароба, лёгка даступная кожнаму, — вось наша задача.

***

Найперш памятайце: захварэўшы, вы набываеце новы, асаблівы статус. У першую чаргу-у сваіх вачах, а тады ўжо — у вачах сваіх блізкіх. Тыя збіраюцца вакол вас, нахмурыўшы бровы ды падціснуўшы вусны. Спачуваюць. Стукаюць вас менавіта там, дзе баліць, цыкаюць зубам. Спрабуюць падтрымліваць — на тое ж яны і свае, блізкія.

Падтрымка гэтая да пакутаў фізічных (якія цярпець можна) дадае духоўныя (невыносныя).

Блізкія кажуць:

— Пхе, падумаеш! Вось у нябожчыцы цёці Валі такі быў боль, што па падлозе каталася і выла ажно. А ў цябе што? Пфуй! Так, лухта.

Хворыя людзі любяць пачуваць сваю выключнасць, як быццам бы аніхто да іх ніколі ні на што не хварэў, таму згадка пра звышнатуральную цёцю Валю вас, натуральна, не радуе. Як, дарэчы, і перспектыва выць, катаючыся па падлозе.

— А вось, — уступае другі блізкі. —Вось я чытаў пра амерыканца, якому во гэтак жа кепска было. То хуценька ўзялі, выразалі яму — і паправіўся. Адразу. Н- ну. Лёгка.

— Што выразалі?

Блізкі паціскае плячыма і пазяхае ў кулак.

— Што-што. Ці то страўнік, ці то пячонку, Бог яго ведае.

Вам, вядома, ані са страўнікам, ані з пячонкаю расставацца пакуль яшчэ не хочацца. Зрэшты, вы ж і тым, і другім досыць рэгулярна карыстаецеся.

— А ўвогуле, —вядзе сваю партыю трэці сваяк. —Увогуле, сам вінаваты. Проста спортам займацца трэба, харчавацца хораша. Часнык там есці. Напрыклад.

І, падняўшы палец уверх, вымаўляе пасля тэатральнай паўзы:

— Дэзінфекцыя!

Доўгія і складаныя словы кшталту «дэзінфекцыя», «атыповая пнеўманія» ці «мікрацыркуляцыя» звычайна дабратворна дзейнічаюць на хворых: вочы адразу пачынаюць зліпацца, а сон, як вядома, найлепшы лек на свеце.

Але калі самастойна вылекавацца не атрымліваецца (гэта значыць не дзейнічаюць ані магічны тэрмометр, ані часныкавая дэзінфекцыя, ані загадкавыя — безназоўныя — таблеткі з аптэчкі на кухні), настойліва раім вам звярнуцца ў паліклініку.

Там усё зроблена для таго, каб вы, хворы і нягеглы, пра сваю хваробу забыліся. Прычым на ўваходзе, з парогу.

Першыя працэдуры можна прыняць адразу — у мясцовай рэгістратуры. Працуючы лакцямі, паспрабуйце прабіцца праз

чаргу тых, хто стаіць у акенца «Талончыкі», праз другую, больш агрэсіўную чаргу ў тое ж акенца і праз хвост да акна «Тэрапеўт на дом». Прабіваючыся, вы шмат новага і цікавага пачуеце пра сябе, прычым кожны з аратараў і дзёрзка, і радасна паспрабуе вызначыць ваш дыягназ. І пры гэтым, што асабліва прыемна, — абсалютна бясплатна.

Напіраючы жыватом на стойку адміністратара, вы з надзеяй глядзіце на суровую жанчыну пад надпісам «Выдача картак на рукі». Надзея, праўда, трохі згасае, калі ў вочы вам кідаецца друкаваная аб'ява «Карткі на рукі не даём».

— Мне б картку, — кажаце вы. Называеце імя, прозвішча, адрас. Суровая жанчына імгненне, яўна сумняваючыся, пазірае на вас. Ці сапраўды вы гэта, або нейкі злачынца, які прагне здабыць картку іншага грамадзяніна? Пасля — з цяжкасцю, яўна пераадольваючы ўнутранае супраціўленне — жанчына вам верыць. Знікае за шафамі. Тым часам вам на пяты наступае энергічная бабця, якой тэрмінова патрэбны лісток аналізаў, ці пахмурны маўклівы дзядзька ў капелюшы. Нішто так не цешыць і не грэе душу, як адчуванне дыхання незнаёмца на сваёй шыі.

Нарэшце суровая жанчына вяртаецца — без вашай амбулаторнай карткі і з адным толькі цяжкім словам на тонкіх, падмаляваных арыстакратычным пурпурам вуснах:

— Няма.

— Як няма? — шчыра здзіўляецеся вы. Жанчыну вашае недарэчнае здзіўленне абражае да глыбінідушы.

— Грамадзянін, не затрымліваем! — кажа яна. Абуранае дыханне на вашай патыліцы зробіцца нясцерпным. Трывайце годна і кажыце, па магчымасці, роўным голасам:

— Але ж мне на прыём!

Суровая жанчына зноў змерыць вас недаверлівым, трохі нават дакорлівым позіркам. Так Мюллер з вядомага кінафільма глядзеў на Штырліца. Пасля з відавочнай неахвотаю падсуне пад шкло шэрую двайную паперку.

— Наце.

І грамчэй, настойліва крыкне:

— Не затрымліваем!

Размяўшыся такім чынам і як след распарыўшыся, можна пераходзіць да асноўных практыкаванняў. Ускараскайцеся па лесвіцы на чацвёрты (лепей пяты) паверх і далучыцеся да дружнай кампаніі хворых пад дзвярыма патрэбнага кабінета. Людзі гэта спрэс сімпатычныя, але трапяткія, далікатныя, не схільныя да лішніх размоў настолькі, што нават банальнае пытанне «Хто ў чарзе крайні?» глыбока шакіруе іх і прымушае надоўга задумацца. Гэта, аднак, зусім не значыць, што вы ім не падабаецеся: варта вам толькі прысесці на лаву ля сцяны, як да вас адразу ж даверліва, нават інтымна падсунуцца ды прыцісуцца. Калі трымаеце ў руках якія-небудзь цікавыя паперкі, кшталту ўласных аналізаў, даверлівы сусед абавязкова праявіць самы жывы інтэрас, выцягне шыю і, павольна варушачы вуснамі, паспрабуе хоць штосьці там расчытаць.

Стаяць у чарзе, нават седзячы, — увогуле навука асобная, і зараз на ёй мы асабліва засяроджваць увагу не будзем. Варта толькі сказаць, што асноўныя задачы стаяння ў чарзе наступныя: па-першае, уласна, дастаяцца да аб’екта жаданняў; па-другое, натуральна, уперад сябе нікога не прапускаць (таму што інакш невыканальным становіцца пункт першы). Асабліва варта засцерагацца пацыентаў катэгорыі «Мне толькі спытаць» (МТС). Найлепшай тэхнікай абароны на сённяшні дзень прызнана блакіраванне дзвярэй кабінета з дапамогаю адной-трох бабуль і агучванне магічнай формулы:

— Усім тут толькі спытаць!

Некаторыя даследчыкі верацца, што названую вышэй формулу лепей за ўсё скандзіраваць усёй чаргою. Мы ж прытрымліваемся традыцыйнагамеркавання: дастатковым з’яўляецца шматразовае паўтарэнне па меры перасоўвання сіл МТС да цэнтра абароны.

Дапамагае таксама барыкада з канапак або фікусаў непасрэдна перад кабінетам, аднак у гэтым выпадку прапускная здольнасць дзвярэй значна зніжаецца. Апошняе некалькі нервуе медыкаў, замкнутых у кабінеце.

Але вось — вы мужна нікога не прапусцілі і пасняхова дасталяліся. Будзьце маральна гатовы да таго, што ў кабінеце доктара ваш статус хворага, які раней успрымаўся вамі як нешта належнае і неад'емнае, раптам апынецца пад сумневам.

— Тэ-эк, — кажа доктар, звузіўшы вочы. І падступна задае пытанне, якога вы, звыклы да сваёй новай ролі, чакаць ніяк не можаце: — Э… Хварэеце, значыць? Праўда?

Глядзіць ён прыблізна гэтаксама, як тая жалезная ледзі з рэгістратуры — з вялізарным недаверам.

Вы паціскаеце плячыма. Вы ўжо і самі не ўпэўнены.

— Кхм, — доктар звяртае ўвагу на шэрую двайную паперку, намёртва заціснутую ў вашай руцэ. — А… э… картка ваша?

— Няма, — ціха адказваеце вы, адчуваючы перад сабою раскрытую пашчу бездані.

— Ну-у, — цягне доктар. — А… э… аналізы? Э… напраўленне? Флюараграфія?

— Няма, — тупа паўтараеце вы. «Флюара-як-там-яе» навявае на вас цяжкое трызненне.

— Я… э… кансультацый не даю, — заўважае доктар. — Я… э… увогуле не магу ў вашым… э… выпадку даць заключэнне.

Вы толькі лупаеце вачыма і, цяжка ўздыхаючы, аціраеце пот. Белы халат, белая столь, белыя паперкі на стале так і плывуць у вас перад вачыма. Нябожчыца цёця Валя, ледзь не зачапіўшы вас плечуком, бязгучна праходзіць праз кабінет, адчыняе дзверы і аглушальна крычыць у калідор:

— Не затрымліваем!

— А што гэта вы… э… успацелі? — шчыра дзівіцца доктар. — Э! Э! Не падаць! Грамадзянін! Падаць тут… э… нельга! Э!

***

Ну і, нарэшце, запомніце адно-адзінае простае правіла з гэтай інструкцыі, якое не толькі прыдасца вам, але і, верагодна, аднойчы выратуе жыццё.

Правіла: не хварэйце.

# Чорны чалавек

Сам ён чорны, як галка: чорны скураны пінжак, працёрты, заслужаны, чорныя кароткія валасы, старанна, з прэтэнзіяй на стыль прыгладжаныя, круглыя чорныя, падобныя да гузікаў, вочы. Міргае рэдка. Твар квадратны, з цяжкой сківіцай, з васпаватай скурай, з заўсёднаю крывенькай усмешкаю. Твар чалавека, які ўсё ведае. Ведае літаральна ўсё. Прычым, канечне, значна лепей, чым вы. Відаць, у гэтым салодкім усведамленні сваёй жыццёвай мудрасці і карэніцца гэтая ўсмешка. Так усміхаюцца дарослыя, калі дзеці захоплена расказваюць ім пра фіялетавых слонікаў, што жывуць пад канапаю. «Ну-ну», — як бы кажуць расцягнутыя вусны. — «Яшчэ чаго прыдумаеш?»

— Здрасце!

Прыходзіць ён па-гаспадарску, не стукаючы. Без запрашэнняў і без папярэджанняў. Прыходзіць не абы-як, а належна падрыхтаваны. Узброены ажно трыма разрыўнымі снарадамі камунікацыі. Першы лірычны: «Ай-яй-яй, і як жа вы тут?» (чытай — «Як настолькі бязглуздыя людзі здолелі выжыць?»). Другі суровы, дальнабойны: «І ўсё ў вас па-ранейшаму, гляджу?» (чытай — «Ідыёты»). Ад трэцяга снарада, які часцей выступае ў якасці контр-аргумента ў любой спрэчцы, патыхае пранафталіненай філасоўшчынкай: «Гэта ў жыцці не галоўнае!»

Што галоўнае — ён, зразумела, ведае. І вам, небаракам, скажа. Анягож. Увесь сэнс жыццёвай мудрасці ў тым, каб дзяліцца ёю, ці не так?

І вас ніхто не пытае, ці хочаце вы гэта слухаць.

Калі вы нежанаты, галоўнае — жаніцца. Калі жанаты, але без дзяцей, галоўнае, натуральна, дзеці. «Ну, і калі ж вы збіраецеся?» У размовах з тымі, хто ў роўнай ступені скаштаваў радасцей сямейнага жыцця і бацькоўства, ён трохі губляецца, пазбаўлены любімай фразы, як мушкецёр, у якога выбілі шпагу. Падпіраючы квадратнай спінай шафу, доўга глядзіць вачыма-гузікамі ў столь. З такой непрыязню, што столь, калі б магла, пачырванела б ад сораму. І заўважна, як варушыцца, як кіпіць у ягоным чэрапе напружаная думка. Абяззброены, ён здольны стаяць вось так хвілін пяць, дзесяць, а пасля выдае чарговую абойму банальнасцей.

— А надвор’е якое стаіць!

— Важна не забываць пра свае карані!

І зноў вяртаецца да «Ай-яй-яй», і замыкаецца кола.

Часам падаецца, што для ўсіх размоў, незалежна ад адказаў субяседніка, у яго ёсць сталы, правераны часам план. На зацёртай пажаўцелай паперцы, складзенай ўтрая. Магчыма, нават завераны некалькімі кучаравымі подпісамі і змазанымі штампамі. На ўсякі выпадак. Подпісы, штампы, пячаткі, вышэйшыя пасады, дазволы і кіламетры дакументацыі яму яўна імпануюць. Напэўна, адчувае сябе ў сваёй стыхіі.

Не цураецца ён і гумару. Едучы ў аўтобусе, абавязкова выцягне з кішэні заслужанага пінжака засаленую — таму што «сала» ў ёй шмат — газетку і будзе жадна ўцягваць праз круглыя вочы-гузікі дрэнны шрыфт. Не ўсміхнецца падчас гэтага — чытае з надзвычай сур’ёзным тварам, павольна варушыць вуснамі. Нават самыя кепскія або не зусім зразумелыя яму анекдоты стараецца запомніць. «Для камунікабельнасці». Каб тыя, вышэйшыя, недасяжныя, у арэоле значных пасад, у светлых вялізарных кабінетах пасля слухалі і, слухаючы, ацанілі пачуццё гумару і досціп. Але звычайна, страшэнна пераўіраючы, расказвае на кухні жонцы. Тая, у рэшце рэшт, цаніць і смяяцца абавязаная.

Часам спрабуе жартаваць і без любімай газеткі. На вячэрніх курсах па падвышэнні кваліфікацыі, куды начальнік

скіраваў яго (і гэта нягледзячы на ўсю жыццёвую мудрасць!), ён ціхенька душыцца ад смеху, бачачы ангельскія словы «her» ці «here». Гэта — вымушаная мера. У просценькіх англамоўных тэкстах, на якіх трэніруюць чытанне, «сала» няма ані крышку, таму даводзіцца нейк прыстасоўвацца. Чытаць без сальнасцей, мысліць без сальнасцей яму цяжка, нязвыкла. Механізм у яго-най галаве, належным чынам не змазаны «салам», не жадае працаваць.

З чалавекам працоўным, занятым яго папраўдзе свецкія размовы нагадваюць тэніс са сценкай.

— Ай-яй, як жа вы тут?

— …

— Усё па-ранейшаму, ты глядзі. І ўсё вы пішаце, усё вы пішаце.

— …

— Гэта ў жыцці не галоўнае.

— …

Заняты чалавек пачынае касіцца на візіцёра з кепска прыхаванай нянавісцю. Тым часам вочкі-гузікі затуманьваюцца, і ў занятага прачынаецца кволая надзея: чорны госць зразумеў, што прыйшоўся не да часу і не да ладу, а таму хутка ён развітаецца і сыдзе.

Пакінь надзею ты, наіўны чалавеча.

Госць падцягвае крэсла бліжэй да стала, дзе замерла, небяспечна падвісла на тонкай нітачцы праца, без запрашэння сядае і, склаўшы рукі на каленях, пачынае душэўна, ласкава:

— А надвор’е зараз якое стаіць, а?

Чорны госць прагне чалавечай ўвагі, і надвор’е само па сабе яго, канечне, не цікавіць. Цікавіць яго толькі гук уласнага голасу. Заняты чалавек скрыгоча зубамі, бо праца павінна быць закончана да абеду, а часу засталося не так і шмат.

— Ай-яй-яй, — кажа госць, тыкаючы крывым пальцам у стос спісаных папер. — І ўсё вы пішаце. Усё крэмзаеце. Быццам гэта галоўнае.

І пачынае доўга і падрабязна расказваць, што ўсё-такі галоўнае. Вучыць ён любіць і употайку спадзяецца, што і гэты ягоны талент заўважаць і ацэняць «зверху».

Пакуль жа не заўважылі і не ацанілі, ён вучыць на кухні жонку. І тая пасля расказвае сваім знаёмым не без гонару:

— А «мой» ну такі вумны, такі вумны!

Знаёмыя вераць.

Пасля працяглага маналогу, які падаецца бясконцым, некаторыя пачынаюць ціха плакаць. Хтосьці ў парыве адчаю лезе пад стол, але і там няма ратунку. Хтосьці пачынае галасна спяваць народныя калмыцкія песні. Людзі ўвогуле па-рознаму спраўляюцца са стрэсам.

Самыя ўпартыя, самыя непахісныя, самыя… дурныя, сціснуўшы зубы, спрабуюць працягваць працу. Гэта чорны госць расцэньвае як асабістую абразу. Чалавечая ўвага патрэбная яму жыццёва, як раслінам — сонечнае святло.

Мяне?! Не слухаць?!.

— І што гэта вы ўсё пішаце, — кажа пакрыўджана. І абавязкова прыпомніць выпадак, калі нехта з ягоных блізкіх знаёмых вось так пісаў, пісаў, а пасля — бац! І застрэліўся. Ці атруціўся. Ці скінуўся з тэлевышкі. Ці даў нырца ў Свіслач з камянём на шыі.

Дзеля справядлівасці варта дадаць, што кожны з персанажаў яго гісторый, відавочна, перад смерцю слухаў чорнага госця на працягу некалькіх гадзін. Розныя людзі, як мы ўжо казалі, спраўляюцца са стрэсам па-рознаму.

— Ды гэта ў жыцці не галоўнае! Вы лепей скажыце, калі ажэніцеся. Каб… таго. Дзетак. А? А?

Вочкі-гузікі ўвап’юцца вам у твар, напружана чакаючы адказу. Хаця адказ не мае значэння: размова будзе, парыпваючы, ісці па тых самых рэйках, заўсёды аднолькавая, замкнёная ў жудаснае, непарыўнае кола. Вы можаце пярэчыць, можаце палемізаваць, можаце добра пастаўленым голасам агучваць прыўкрасныя, лагічна завершаныя, аздобленыя рытарычнымі прыёмамі

прамовы пра разумнае, добрае, вечнае. Можаце нават лаяцца. Можаце. Але, па шчырасці, гэта бессэнсоўна. Вы з большым поспехам пераканаеце тыгра-людажэра перайсці на вегетарыянскае харчаванне.

Таму не раздумвайце.

Бяжыце.

А што?

Ніхто не здзівіцца і слова ўпоперак не скажа.

Розныя людзі па-рознаму рэагуюць на стрэс.

# Год Свінні

Мы можам ледзьве трываць прысутнасць іншых людзей побач цэлы год, пераплёўвацца атрутаю з блізкімі і дальнімі сваякамі, адвешваць поўхі дзецям, ціха ненавідзець калег і начальства. Але надыходзіць той самы светлы, поўны дабрыні і выбачэння час, калі жыццё сходзіць са сваіх звыклых каляін, і нечакана ўсім тым, хто страшэнна беснаваў, трэба дарыць падарункі, падпісваць карткі і зычыць шчасця і дабрабыту.

І дорым. І падпісваем. І зычым. Шчыра. Ну, амаль што.

— А вось гэтую свінню мы падорым Мікалаю Аляксандравічу.

— Чаму гэта?

— А ты паглядзі на яе, асабліва ў профіль. Падобная ж.

І Мікалаю Аляксандравічу пад елку падкладваюць свінню.

Каб яшчэ болей схіліць да дабрыні ды святла, амаль у кожнай краме ўжо з канца восені аб'яўляюць «навагоднія» зніжкі. Людзі, шалеючы ад кідкіх аб'явак, ірвуцца наперад, штурмуюць дзверы. Такі самы натоўп, толькі нагружаны скруткамі і пакункамі, намагаецца выйсці. Атрымліваецца і ў першых, і ў другіх не адразу.

У чэргах знерваваныя пакупнікі змрочна дыхаюць адзін аднаму ў патыліцу, прыціскаюцца інтымна, расстаўляюць локці. Каб, барані Бог, не ўціснуўся хто, не пралез. На любы рух у бок касы рэагуюць адразу ж.

— Жэншчына, вас тут не стаяла!

— Жанчына, вы куды гэта?!

— Тут чарга, каб вы ведалі!

— Я ведаю. Я — касір.

Дзяцей, старанна захутаных у цёплае, цягнуць па лесвіцах. Дзеці, распараныя і млявыя, голасна равуць. Гэта ім для школьных ранішнікаў ды вечарын выбіраюць касцюмы. Пасля дробныя васьмігадовыя лялькі ў касцюмах сняжынак, якія вытыркаюць з-пад зімовых куртачак, трасуць агромністымі белымі бантамі і, крывячы рот, тонам эксперта пытаюцца:

— А дыскатэка там будзе?..

Падарункі малым купляюць, вядома, без іх. І зусім не таму, што інакш сюрпрыз сапсуецца. Проста вывесці дзіцёнка, аглушанага святочнай атмасферай, з царства яркіх цацак без значных маральных і грашовых стратаў немагчыма.

Часта ў дзіцячых аддзелах вялікіх крамаў можна пабачыць сталых мужчын з сумнымі тварамі святых пакутнікаў. Пакутнікі доўга і бессістэмна блукаюць сярод стэлажоў з цацкамі, цяжка ўздыхаюць. Задуменна ўзважваючы на руцэ пластыкавы аўтамацік ці пупса, дастаюць тэлефоны і драматычным шэптам (які добра чуваць па ўсім аддзеле) кажуць у слухаўку:

— Тань, ну што браць, ну?

Штогод — і таксама, здаецца, увосень — усе дружна і на поўным сур'ёзе высвятляюць, што кажа кітайскі каляндар адносна наступнага года. Астролагі ў газетах і часопісах, на сайтах і тэлебачанні радасна і вельмі пераканаўча расказваюць, што сінія свінні любяць, каб на стале ў навагоднюю ноч былі стравы з жалудоў. Абавязкова са спасылкай на філосафа-кулінара Веляміра Лебедзева, які распрацаваў жалудовую дыету, што дапамагае ад усіх хвароб, і памёр ва ўзросце ста пятнаццаці год праз непрыемны інцыдэнт з дзікім кабанчыкам.

І хіба тут можна спрачацца ды пярэчыць? Астролагі, вядома, лепей за сярэднестатыстычнага грамадзяніна разбіраюцца ў свіннях і іхніх дыетах.

— Знаёмая рабіла жалудовую маску на твар.

— І што?

— Ружовенькая стала, як…

— Як?

— Як… немаўлятка!

Як толькі «гадавая» жывёліна вызначана, крамы непазбежна запаўняюцца яе падабенствамі. Скажам, тымі ж свіннямі. Любымі — з дрэва, з гліны, з металу, з каляровага шкла, з пластыку. Свіныя рыльцы глядзяць з календароў, з паштовых картак. Свінням святочныя чырвоныя шапачкі дамалёўваюць, свінням макіяж наносяць: доўгія чорныя вейкі, цені на павеках. Зірнеш на такога «ачалавечанага» парсюка — і жудасна робіцца, і катлета ў горла не лезе.

Людзі, праўда, купляюць. Калі не сабе, то, значыцца, у падарунак. Праўда, калі на такіх вось свіннях яшчэ можна выехаць у выпадку з калегамі і знаёмымі (ды і хаця б танна), то сябры ды сваякі, на жаль, патрабуюць асобнай увагі.

— Што бабулі падорым?

— Вунь па зніжцы набор пернікаў.

— У яе ж зубоў два ці тры толькі засталося.

— Тым лепей. Значыць, паляжаць, пакуль ізноў не прыедзем.

Увогуле, вяршыня досціпу — падарыць штосьці не без значэння. Не без прыхаванага з'едлівага паківання. Падкласці дробачку звыклай атруты, а то ад сезоннай, змушанай дабразычлівасці ажно ў роце ссохла. Абстыненты сіндром, так бы мовіць.

— А дзядзі Пеці з сям'ёй падарунак не купляй, усё роўна не прыедуць. Я ім картку даслаў.

— Са свіннёй хаця б?

— Там чатыры свінні. Большая — дзядзя Пеця, тады цёця Галя, а парсючкі — Уладзік і Валерык.

Стрыечнаму брату, якога муштруе жонка-вегетарыянка, падорым каляровую кніжку «Трыста мясных страў».

— Ты ж так любіш шашлыкі, Санечка.

Пляменніцы, якая ў свае трыццаць пяць аніяк не выйдзе замуж, — сімпатычны набор панчошак. Сініх. Дзядзьку, які доўга і без асаблівага поспеху лечыць залежнасць ад алкаголю, — каньяк.

— Калекцыйная, бач ты, бутэлька.

Гэта значыць — заваляласся ў шафе і страціла частку этыкеткі.

Сястры Каці ўрачыста ўсунем набор посуду, што ўжо гадоў трыццаць пераходзіць ад аднаго сямейніка да другога і так нікім і не быў распакаваны. Каціному мужу-алергіку — мужчынскі парфюм, ад якога пачынае чхаць нават кот. І кожнаму пад елачку — па свінні. Каб нікому крыўдна не было.

Шампанскае шыпіць, куранты б'юць, гірлянды таямніча паблісквяюць.

— Як добра, што мы тут усёй сям'ёй…

За традыцыйным аліўе ды сялёдкай у бурачковым футры усе сядзяць, з замілаваннем гледзячы на халадзец. Так і сустракаюць чарговы год. Падарункамі абменьваюцца, выкрыкваюць тосты. І любяць адзін аднаго, любяць. Амаль што.

Пасля, калі аліўе канчаткова з'едзены, а ад шампанскага лёгкім успамінам засталася пякотка, дабрадушны святочны настрой патроху пакідае, так што можна ўздыхнуць свабодна.

— Не, ну ты паглядзі. Падарылі, паскуднікі, попельніцу ў форме пантофліка жаночага.

— Ну-у-у? Ды як яны…

— Паківаюць, бачыш ты, што я ў цябе пад абцасам!

— Паскуднікі! Гадаўцы! А яшчэ сваякі!

— **Твае** сваякі!

І вялікая, светлая, усеабдымная любоў аціхае. Да наступных святаў.

## Спорт

Зараз усе спрэс спартыўныя, каго ні спытай. А мы, скажыце, чым горшыя?

Але пачынаць жа трэба паступова. Нельга ж проста прачнуцца раніцай і пабегчы наразаць колы, як той шалёны сабака.

Сямёнава і сказала:

— Пойдзем на каток!

Тым больш — зіма. Ды і з Сямёнавай мы спрачацца не звыклі. Чалавек яна, нічога не скажаш, сур'ёзны. І паўналетні, сталы. Нават звышсталы: прайшло ўжо не менш за два дзесяцігоддзі з той пары, як ёй споўнілася васемнаццаць.

Пайшлі.

— Усё-такі зіма, — горача і ўзнёсла казала Сямёнава, пакуль калыхаліся ў вагоне метро. — Усё-такі зіма — гэта спорт. Гэта канькі. Гэта каток.

Мы Сямёнавай не пярэчылі. Слухалі, як яна з імпэтам даводзіць нам, што зіма — гэта спорт, спорт і спорт, што яна на каньках стаіць з трохгадовага ўзросту і што яна яшчэ за нас возьмецца.

— Чалавек, каб вы ведалі, у мінус пятнаццаць, — казала Сямёнава, з вышыні свайго вопыту паглядаючы на іншых, зусім не спартыўных пасажыраў. — За адну гадзіну схуднее на два кіло.

Сямёнава гаварыла настолькі аўтарытэтна і пранікнёна, што нават хацелася, каб яна за нас узялася. Мы пачалі паціху падлічваць, колькі такім чынам можна скінуць. Разумееце, каб улетку ўсе ўпрост ахнулі. Каб усе ад такой прыгажосці пападалі — мужчыны ад захаплення, жанчыны ад зайздрасці.

Дык вось, атрымлівалася, што праз пяць гадзін практыкаванняў на марозе нам можна будзе смела выходзіць на еўрапейскія модныя подзіумы, а праз дзесяць — то і ўвогуле ісці ў балет.

Адным словам, паўсюдная мода на худзізну нас спакусіла, быццам той яблык Еву. Ды і спорт, зноў жа.

Калі выйшлі з метро, Сямёнава зрабіла шырокі жэст рукою, як бы паказваючы на святочную елку, каток і белы кіёск з шыльдаю «Пракат». Так, мусіць, Хрыстафор Калумб паказваў сваім матросам на берагі Амерыкі, якую, праўда, шчыра лічыў Індыяй.

— Зіма — гэта канькі, — пераканаўча дадала Сямёнава і жвава рушыла да пракатнага кіёска. Прагучала не так эпічна, як «Даю дзень на рабаванне горада», але мы ўсё роўна ўразіліся.

Пад шыльдаю сумаваў, падпершы галаву рукою, пажылы чырвонашчокі мужчына. Пазіраў з болем на канькі, на снежныя гурбы, на каляровыя гірлянды, саркастычна крывіў вусны і ледзь заўважна хітаў галавою.

А ў вачах чыталася:

— Быць? Або не быць?

Чырвонашчокі пракатны Гамлет нас азадачыў. Нахабна разбураючы рэвалюцыйную сямёнаўскую тэорыю, ён, хоць і відавочна доўга сядзеў на марозе, быў нехуды. Папросту сказаць, досыць тоўсты. Што называецца, ўпоперак сябе шырэйшы.

— А можа, ён нядаўна тут працуе?

— А можа, ён штогадзіны ходзіць пагрэцца кудысь?

Сямёнава тым часам, вывудзіўшы з заплечніка пашпарт ды грошы, наладжвала кантакт з Гамлетам.

— Нам, будзьце ласкавы, чатыры пары канькоў, — прамовіла тонам канкістадора, нецярпліва тупаючы на месцы. — Тры для пачаткоўцаў, адна — прафесіянальная.

На слове «прафесіянальная» яна не без гонару ўскінула галаву, каб усім без словаў было зразумела, хто іменна тут прафесіянал.

Гамлет перавёў саркастычны позірк на Сямёнаву, змерыў яе вачыма і нічога не адказаў. Нетаропка падняўся і знік у кіёску.

Праз пятнаццаць хвілін мы захваляваліся. Праз дваццаць Сямёнава, грозна нахмурыўшы бровы, загрукала ў дзверы кіёска кулаком.

Праз трыццаць Гамлет вярнуўся да нас. Болей за тое: вываліў у снег канькі — чатыры абсалютна аднолькавыя пары.

Аднак, як выявілася, аднолькавымі яны былі толькі для неабазнаных людзей кшталту нас. Сямёнава вокамгненна схапіла тыя канькі, што вытыркалі са снежнай гурбы бліжэй да яе, і рушыла да лавачкі.

— Галоўнае, — казала Сямёнава, скідваючы боты. — Гэта правільна абуцца.

Як выявілася, усадзіць ногі ў канькі, хай сабе і непрафесіянальныя, — гэта тое яшчэ выпрабаванне. Мы саплі, хрыпелі, лаяліся, дзьмухалі на настылыя рукі, зноў цягнулі шнуроўку. Сямёнава падбадзёрвала ўсіх гучнымі воклічамі — як рабоў на галерах.

Праблема, не зусім відавочная спачатку, стала вострай, калі мы, сяк-так стаўшы на канькі, хацелі ісці катацца.

Праблема была ў лавачцы, якая глядзела ў бок вуліцы, а не катка, і ў агромністых, ледзь не да пояса, абледзянелых сумётах, якія абкружалі ўвесь ледзяную пляцоўку. Адбывалася класічная сітуацыя «лісіца і вінаград», толькі ў зімовых дэкарацыях.

Мы, пакрэхтваючы, нерашуча тупалі вакол лавачкі. Чырвонашчокі Гамлет саркастычна назіраў за намі хвілін пяць, пасля знік за сваім кіёскам і вярнуўся ў суправаджэнні сябрука — такога ж круглага і чырвонага, толькі з профілем рымскага імператара.

Сямёнава, крывячы вусны, змерыла нашых гледачоў поўным нянавісці позіркам, а пасля рашуча ўзяла разбег і пачала караскацца на сумёт. Імператар і Гамлет падбадзёрвалі яе гучнымі воклічамі.

— Канькі — гэта спорт! — прыгаворвала Сямёнава. — Спорт — гэта жыццё! Жыццё — гэта…

Тут выявілася, што жыццё — гэта яшчэ і боль, паколькі Сямёнава не ўтрымалася на самым версе сумёта і з'ехала назад, добра прыклаўшыся спінаю. Парачка школьніц, вырачыўшы на нас вочы, прайшла побач, асцярожна пераастаўляючы тонкімі ножкамі ў цяжкіх каньках.

— А! — толькі і сказалі мы, калі школьніцы спакойна выйшлі на лёд праз спецыяльна расчышчаную сцежку ў сумёце. Сямёнава, пакрахтаўшы, паднялася на ногі, і, пакуль мы дружна абтрасалі з яе курткі снег, патлумачыла нам, што гэты праход — для дзяцей і аматараў. Спецыяльна. І нам, канечне, там прайсці можна, паколькі мы зусім неспрактыкаваныя і неспартыўныя. Яна, Сямёнава, нас нават правядзе, каб не было непрыемных нечаканасцей.

Нечаканасцей, і праўда, не было. Таму што лёд быў якраз чаканасцю, але — нечакана — не зусім такой, як уяўлялася напачатку. Мы хадою пігвінаў патроху перасоўваліся туды і сюды, і ўсё глядзелі на сіняваты лёд, на серабрыстыя бурбалкі паветра пад яго паверхняй, і мімаволі падлічвалі, ці доўга дабірацца да самага блізкага траўмапункта. Вынікі гэтых падлікаў не абнадзейвалі.

Сямёнава, як сапраўдны сябар, нас не кідала, нягледзячы на свой незвычайны талент фігурысткі. Заставалася побач і, мусіць, каб не прымушаць нас саромецца ўласнай нязграбнасці, кацілася такім самым няўклюдным пінгвінам.

Праз пятнаццаць хвілін з нашай павольнай пінгвінскай кампаніі не засталося нікога, хто не выглядаў бы сапраўды спартыўна. На каго з нас ні зірні — абавязкова пабачыш расчырванелы ад высілкаў наморшчаны твар, і прыкушаныя вусны, і ў вачах — пакуту і нявыказанае пытанне:

— За што?!

Выратавала ўсіх, як заўсёды, Сямёнава. Як выявілася, тоўсты нахабнік Гамлет выдаў ёй нейкія няправільныя канькі з вельмі слабой шнуроўкай. Апошняя падступна распусцілася. Сама сабою.

— Немагчыма ж так катацца! — выказала свой вердыкт сярдзітая Сямёнава і меленькімі крокамі папаўзла да выхаду. Мы, не згаворчаючыся, пацягнуліся за ёй.

— Вядома, калі канькі няправільныя…

— Во я й думаю — чаго гэта не магу катацца? А гэта во што.

— Ну і сервіс у іх тут! Шнуроўкі слабыя, ты паглядзі.

Скінуўшы праклятыя няправільныя канькі, кульгаючы і вохкаючы, ледзь дайшлі да кавярні. Пілі каву, елі пірагі, і кексы, і збітыя вяршкі. Падумалі — і замовілі піццу.

— Пасля фізічных практыкаванняў заўжды хочацца есці, — аўтарытэтна, хаця і не дужа разборліва казала Сямёнава. — Гэта норма.

Мы маўчалі — пакольկі роты былі набітыя, — але дружна хіталі галовамі. Што ж зробіш, калі арганізм патрабуе? На адным марозным паветры не пражывеш.

Калі ўзважваліся на наступны дзень, вачам сваім не паверылі. Ледзь не плакалі ад расчаравання. Набралі кожная па два, па два з паловай кіло. Сямёнава, як чалавек усебакова адораны, і тут вылучылася:

— Уявіце сабе, пяць!

А ўсе кажуць «спорт», «спорт».

*Латышкевіч Маргарыта Юр'еўна*

*Нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў горадзе Брэсце, жыве і працуе ў Мінску.*

*Паэтэса, празаік, літаратуразнаўца, фалькларыст.*

*У 2011 годзе з адзнакай скончыла філалагічны факультэт БДУ, у 2012 — магістратуру таго ж факультэта (спецыяльнасць «Літаратуразнаўства»), а ў 2015 — аспірантуру (спецыяльнасць «Фалькларыстыка»). Зараз дапрацоўвае кандыдацкую дысертацыю.*

*Дэбютавала з вершамі ў 2005 годзе (публікацыя ў часопісе «Бярозка»). З 2006 года з'яўляецца пастаянным аўтарам часопіса «Маладосць» і штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». З 2013 года з'яўляецца сябрам СПБ.*

*У 2007 годзе атрымала дыплом ад часопіса «Маладосць» за лепшую публікацыю ў намінацыі «Публіцыстыка».*

*Лаўрэат шэрага творчых конкурсаў, у тым ліку за апошнія гады:*

*— літаратурнага конкурсу Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, прысвечанага 120-годдзю М.Багдановіча (намінацыя «Паэзія»);*

*— конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост дружбы» (намінацыя «Проза» (2012 г.));*

*— Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу імя М. Багдановіча (намінацыя «Паэзія» (2014 г.));*

*— Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Первая глава: четвертый сезон» (раман фэнтазі «Дом Разделенный» (2016 г.)).*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Пульс навальніц» (2012 г.), таксама— шэрагу калектыўных зборнікаў паэзіі і прозы (у тым ліку — «Мой дзень пачынаецца» (2015 г.)).*

